
Гайнаўскія школьнікі→5



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 48 (3055) Год LIX | Беласток, 30 лістапада 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Сакрат ва ўніверсітэце→8

94 гадавіна **Слуцкага Збройнага Чыну** асабліва сёння прыводзіць да сумных роздумаў. Рэспубліка Беларусь, хаця фармальна, дэ-юрэ, з'яўляецца незалежнай краінай, але ў сапраўднасці — дэ-факта — не зусім. Умяшанне Расеі ва ўнутраныя справы суседняй Украіны, анексія Крыма і яўная ўжо агрэсія на тэрытарыяльную суцэльнасць суседкі, яўная падтрымка гэтак званых самазванчых Луганскай і Данецкай Народных Рэспублік ставяць перад намі пытанне: хто наступны? Падобнае пытанне ставілася на той жа Украіне, калі Расея напала на Грузію: «сёння Грузія, заўтра Украіна». Ці не будзе гэта Беларусь? Расейскія ваенныя базы, націскі дзеля забароны на рээкспарт тавараў, хаця Еўразійскі эканамічны саюз выразна дазваляе на гэта — мо для Крамля будзе мала. Тады што далей?

Яшчэ сёлета ў сакавіку спадарыня Івонка Сурвіла ў адозве з нагоды Свята Незалежнасці перасцерагала перад маскоўскай паўзучай гегемоніяй. Таму і цяпер у Дзень Герояў — 27 лістапада варта пра гэта памятаць. Прапаную Вашай увазе інтэрв'ю на гэтую тэму, якое даў нам гісторык з Гародні прафесар Алесь Краўцэвіч.


racyja.com

тым, што пры фенаменальнасці іхніх асоб, пры магутнасці іхніх высілкаў усё нібыта сышло ў пясок. І вось мы зараз, спадчыннікі нацдэмаў расстраляных бальшавіцкай уладай, таксама пачынаем быццам усё нанава. Але гэта не так, бо пераконваешся, што гэтыя падзеі, такія здарэнні як Слуцкі Збройны Чын, як праца беларускіх адраджэнцаў, дзеячаў 20-х гадоў — яны дзесьці жывуць. Можа на падсвядомым узроўні, але ёсць: мы ўжо на прыступку вышэй стаім, маем уласную дзяржаву. Хоць яна такая, якая ёсць, але яна ўсё-ткі ёсць урэшце!

* * *

27 лістапада беларусы ва ўсім свеце адзначаюць нацыянальнае свята — Дзень Герояў. Устаноўленае яно было беларускімі эміграцыйнымі і патрыятычнымі коламі ў 1980 годзе ў гонар Слуцкага Збройнага Чыну — антыбальшавіцкага паўстання ў лістападзе і снежні 1920 года.

У Слуцкім паўстанні ваявала ад чатырох да дзесяці нават тысяч беларускіх жаўнераў. На працягу амаль двух месяцаў паспяхова абараняліся яны ад наступаючай на гэтую частку Беларусі Чырвонай Арміі. Калі не змаглі ўжо абараняць сваёй зямлі ў няроўным змаганні з пераважаючымі бальшавіцкімі войскамі, перайшлі ў бальшую савецка-польскую мяжу. У Польшчы на якісь час былі інтэрнаванымі.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**

# «...каб жыла Беларусь»

**Юрка Ляшчынскі**: — Многія гісторыкі цвердзяць, што Слуцкі Збройны Чын гэта самае вялікае і найважнейшае змаганне беларусаў за незалежнасць, большае, чымсьці Паўстанне Кастуся Каліноўскага 1863-1864гадоў.

**Праф. Алесь Краўцэвіч:** — Можна так сказаць, бо Паўстанне Кастуся Каліноўскага адбылося ў XIX стагоддзі. Яно не ставіла сваёй мэтай стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы. Чым Слуцкі Збройны Чын важны для нашае гісторыі? Менавіта тым, што слуцкія паўстанцы, слуцкія змагары свядома жадалі будаваць беларускую дзяржаву. Гэта ўжо былі нацыянальныя героі, не этнічныя, не народныя героі — змагары за бедных супроць багатых. Гэта змагары за канкрэтную беларускую дзяржаву і ў гэтым іх вялікасць.

— Ці ў беларускай гісторыі належна ацэньваецца слуцкае змаганне, слуцкі чын?

— Калі гаварыць пра незалежных гісторыкаў, незалежную гістарыяграфію — патрыятычную, беларускую гістарыяграфію — то аддаецца належнае. Калі гаварыць пра агульную беларускую гістарыяграфію, то афіцыйныя гісторыкі замоўчваюць Слуцкі Збройны Чын або стараюцца зменшыць яго значэнне. Гэта абсалютна няправільна, гэта зноў жа той фактар, якім улады дзеляць наш народ.

— Чаму менавіта так?

— Таму, што нашыя ўлады, наш рэжым — прарасейскі. Гэта прынцып лакея — ён мне плаціць, а я ліжу яму бот. Расея Лукашэнку плаціць і ён ліжа яе боты, Пуціну боты.

— Ну, але Слуцкі Збройны Чын не быў сам па сабе антырасейскі, ён быў перш за ўсё за незалежнасць Беларусі, але антыбальшавіцкі.

— Справа ў тым, што тады Расея прыняла форму камуністычную, бальшавіцкую і далей засталася імперыяй. Была царская, а стала савецкая. Сучаснае расейскае кіраўніцтва ўспрымае сябе спадкаемцамі савецкай імперыі. І таму змаганне супраць бальшавізму не было змаганнем супраць беларускага бальшавізму, толькі змаганнем супраць расейскага бальшавізму.

— Гадавіны Слуцкага Збройнага Чыну пачалі ўшаноўвацца ўжо ў міжваенны перыяд так у Заходняй Беларусі (тады акупаванай Польшчай), як і на эміграцыі, але і ў самой Беларусі толькі з канца васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. І цяпер ушаноўваюцца.

— Яны ўшаноўваюцца незалежным грамадствам пад пераследам улад. Кожны раз, калі з гэтай нагоды збіраюцца людзі, яны маюць непрыемнасць ад улад; арышты, затрыманні, патрабаванне зняць бел-чырвона-белыя сцягі. Вось такі парадокс нашай беларускай сучаснасці, скразны фальш. Гаворыцца адно, а робіцца другое. Дзякуючы Збройнаму Чыну Лукашэнка мае зараз уладу, мы маем незалежную дзяржаву. І гэтая ж дзяржава змагаецца супраць памяці тых людзей, якія праклалі дарогу да беларускай дзяржаўнасці. Увогуле, я лічу што Слуцкі Збройны Чын павінен быць даследаваны і міфалагізаваны на такім узроўні, як у палякаў Варшаўскае Паўстанне.

— Значыць, значэнне Слуцкага Збройнага Чыну для сучаснай незалежнай Беларусі вялікае і належна, на жаль, не дацэненае.

— Такіх падзей як Слуцкі Збройны Чын у нашай гісторыі было няшмат. Ведаем, якая русіфікацыя праводзілася ў нашай краіне раней. Мы ведаем, што беларусы больш цікавіліся сацыяльнымі пытаннямі. Яны больш хацелі зямлі, чым незалежнай дзяржавы, таму што не было беларускага школьніцтва, не было каму выхоўваць беларусаў на патрыётаў. І таму такая падзея як Слуцкі Збройны Чын, такое выступленне, такая самаарганізацыя народу заслугоўвае на тое, каб кожны год гэтым займаліся навукоўцы, каб быў спецыяльны аддзел у Акадэміі навук. Я лічу, што павінен быць у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук аддзел, які займаўся б толькі Слуцкім Збройным Чынам, выдаваў дакументы, апытваў людзей — дзяцей тых людзей, якія ваявалі (яшчэ іх дзеці жывыя і памятаюць сямейныя расповеды). Можна ствараць цэлую гістарыяграфію, серыю фільмаў — дакументальных і мастацкіх. Слуцкі Чын павінен быць нашым нацыянальным гонарам і нашым нацыянальным міфам.

— Такія прозвішчы случчакоў як Макар Краўцоў (аўтар слоў нацыянальнага беларускага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»), Станіслаў Булак-Балаховіч — славуты генерал, ці Мікола Дзямідаў (паходзіў з Беласточчыны) і тысячы іншых закончылі трагічна. У чым заключаецца іх трагедыя?

— Трагедыя беларускіх нацыянальных дзеячаў 20-х гадоў XX стагоддзя палягае на

## ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ 2014

***Няхай памяць натхняе нас...***

*Паважаныя Суродзічы, Дарагія Сябры!*

*«Няхай памяць натхняе нас...» Словы гэтыя прамовіў на сьвяткаваньні канадыйскага Дня Герояў — 11-га лістапада — прадстаўнік Каралевы ў Канадзе Дэвід Лойд Джонсан.*

*З нагоды нашага Дня Герояў, у гэтым 94-ыя ўгодкі першага дня Слуцкага Збройнага Чыну, віншую ўсіх вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам і жадаю, каб ПАМЯЦЬ ПРА НАШЫХ ГЕРОЯЎ ДАЛА НАМ СІЛУ ДАВЕСЬЦІ ДА ПЕРАМОГІ ПАЧАТАЕ ІМІ ЗМАГАНЬНЕ ЗА ВОЛЮ СВАЕ ЗЯМЛІ.*

*Случчакам не было патрэбы задумвацца, ад каго бараніць сваю незалежную дзяржаву. Да сямідзесяцігадовага прамываньня мазгоў нашага паняволенага народу, усім было ясна, адкуль ішла пагроза.*

*Дарагія сябры, памятайма Случчакоў. Памятайма з удзячнасьцю ўсіх нашых продкаў, якія на працягу нашае гісторыі баранілі наш край. Дзякуючы іхняй мужнасьці, мы яшчэ жывем і ведаем, хто мы.*

*Жыве Беларусь!*

***Івонка Сурвілла,***
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*
*Лістапад 2014.*


9 770546 196000



# „Рынкавы сацыялізм”

Ва ўніверсітэце нам выкладалі прадмет пад назвай „палітэканомія”. Кваліфікаваны і цікавы, светлай памяці, выкладчык старэйшага ўзросту даводзіў нам законы, паводле якіх развіваецца сусветная і наша, тады яшчэ сацыялістычная, гаспадарка. Разумелі мы з таго няшмат, тым больш, што за мяжу тады яшчэ амаль ніхто не ездзіў, а тое, што адбывалася ў савецкай сістэме, увогуле мала хто разумеў. Які лад тады будавалі ў дзяржаве — таксама ўяўлялася неяк цьмяна. Вось пры Хрушчове дэклараваўся камунізм — гэтая светлая будучыня, якая павінна была ўсіх заліць шчодрымі прамянямі дабрабыту і ўсеагульнай радасці. Потым, праўда, выявілася, што замест яркага камунізму надышоў беспрасветны „застой”. Міхаіл Гарбачоў задумаў перабудову і ўкараняў тэрмін „сацыялізм з чалавечым тварам”. З гэтага ў выніку хоць нешта талковае атрымалася — пачалося развівацца дробнае прадпрымальніцтва, сталі ствараць нейкія кааператывы, людзі пачалі адчуваць сябе гаспадарамі. Але тады яшчэ не было панятку „рынкавы сацыялізм”, які вынайшаў Вялікі Правадыр, Ідэолаг і Светач найноўшага часу. Гэта таксама зразумелі не ўсе і не адразу. І толькі ў больш сталыя гады мы пачынаем разумець усю глыбіню гэтай стратэгічнай задумы мысляра. Дапамагаюць у асэнсаванні велічы задумы шматлікія ідэолагі, якія ўсталяваліся не толькі ў тэлебачанні, але і на кожным прадпрыемстве, у кожнай установе.

Што такое „рынкавы сацыялізм”? Гэта калі ўсім загадана шукаць альтэрнатыўныя крыніцы паліва і гэтыя ўсе пачынаюць выразаць здаровыя дрэвы — паркі, прысады абапал дарог, старыя гарадскія насаджэнні. Нічога, што пры тым на спілаванне, разразанне і перавозку ўжо дроў патрацяцца куды большыя сродкі, чым эфект ад спальвання гэтых дроў. Нічога, што засеяныя палеткі ўжо не будуць абаронены дрэвамі ад шкодных аўтамабільных выкідаў. Нічога, што вырасце колькасць аўтамабільных аварый зімой, бо страчваюцца арыенціры, а дарога нагадвае заснежаную пустыню. „Рынкавы сацыялізм” — гэта калі па ўсёй краіне будуюцца вялізныя, дарагія ў эксплуатацыі, лядовыя палацы, але гуляць у хакей няма каму. Гэта калі ўсе школы абносяцца, нібыта турэмная зона, высокімі і дарагімі металічнымі платамі і ў выходныя дзецям няпроста патрапіць на школьныя стадыёны і пляцоўкі, а састарэлым людзям трэба абыходзіць гэтыя „рэжымныя аб'екты” амаль кіламетр. Відаць, гэта і ёсць сапраўднае дбанне пра здароўе нацыі.

Што такое „рынкавы сацыялізм”? Гэта калі нядаўні старшыня нацыянальнага банка краіны, а цяпер гэткі „ўсесаюзны староста” а-ля Калінін заяўляе, што зберажэнні свае трэба падзяліць на тры роўныя часткі і найлепш захоўваць у доларах, еўра і расейскіх рублях. O, santa simplicitas! І гэта ў дзяржаве, дзе ўсе мільянеры па колькасці нулёў на папяровых купюрах і няма манет (такая дзяржава на кантынентце толькі адна!). Тут не да дробязі. Вялікая ідэя пабудовы „рынкавага сацыялізму” натхняе незлічоныя народныя масы на новыя працоўныя подзвігі, а яго айцоў — на новыя вынаходніцтвы. Вось зараз сур'ёзна возьмуцца за „тунеядцев”. Хоць, здаецца, дзесьці гэта ўжо было: „продразвёрстка”, „продналог”, „экспрапрыяцыя”, „раскулачванне”. Але развіваць „творчую спадчыну” заўсёды ёсць куды. Асабліва калі „распячатаць кіпучыя гейзеры народнай творчасці”...

Грамадзяніна іншай краіны „рынкавы сацыялізм” сустракае ўжо на мяжы ў выглядзе платнага туалета. Ён яшчэ шмат разоў сутыкнецца з гэтай з'явай — калі ў той жа прыбіральні атрымае заранёў адарваны нармаваны кавалак туалетнай паперы, калі ўбачыць зачыненую „на абед” у абед кавярню, калі ў рэстаране ўгледзіць разрэзаныя на чатыры часткі сурвэткі, а цукар у гарбату яму засыплюць адразу — стольківі, колькі „палажана”. „Экономіка павінна быць эканомнай” — гэты стары класічны лозунг прапісаны ў кожнай з'яве дзяржавы, якая будуе „рынкавы сацыялізм”.

Можна яшчэ доўга прыводзіць такія прыклады. Многія — шчаслівыя ў гэтай дзяржаве „рынкавага сацыялізму”. Аднак, імкнуцца яшчэ ёсць куды. Вось у Паўночнай Карэі намнога больш шчаслівых людзей. Мяжволі думаецца, што ўсё ж ідзя „чучхэ” мацней за ідэю „рынкавага сацыялізму”.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дурная
## чалавечая справядлівасць



Палітычная рэальнасць у Польшчы мяняецца як у калейдаскопе. Хопіць адзін паварот гадзіннай стрэлкі, каб усё стала на галаве, і праз некаторы час, перакульваючыся, ляжала ніцма на зямлі. І так на працягу многіх, многіх гадоў. Што толькі ўладзіцца ў польскай дзяржаве, тое ж адразу і разладзіцца. У гэтым стане разладжання абвінавачваецца кіруючая Грамадзянская платформа і настойліва імкнучаецца да ўладарання Права і справядлівасць — разам з іх агульнай племяннай польска-польскай вайной, аднолькава беззмястоўнай ідэалогіяй і палітычнай рыторыкай поўнай пустых банальнасцей аб дабры грамадзян, вяршэнстве закона, сацыяльнай справядлівасці, аб моцнай краіне... Апасродкавана можна таксама абвінавачваць габрэяў і веласіпедыстаў. Касцёл або геяў. Масонаў або мафіёзі. Злодзеяў або прадпрымальнікаў. Ёсць шмат змоўніцкіх тэорый, а дурняў яшчэ больш. У рэшце рэшт, трэба адрозніваць проста дурняў ад дурняў інтэлігентных. Ад адных нейкім чынам можна вызваліцца, а ад другіх — ні за што! Ужо Франсуа дэ Ларошфуко, што нарадзіўся 401 год таму ў Францыі, аўтар субтыльных і ў той жа час дасціпных «Максімаў» аб прыродзе чалавека, казаў, што «няма больш дакучлівых дурняў, чым інтэлігентныя дурні». Ну і што, што яны адукаваныя ва ўніверсітэтах, добра размаўляюць не толькі на польскай мове, але і на некалькіх замежных; ну і што, што надзелены прыродай высокім IQ... Але ўсё ж дурні! Дурні, таму што яны думаюць пра сябе, што яны незаменныя. Дурні, таму што клапоцяцца толькі пра сябе, спадзяюцца толькі на сябе. Дурні, таму што ў сваёй фанабэрыстасці яны не ў стане зразумець абмежавання свайго розуму, ведаў, здольнасці прагназаваць падзеі. Дурні, таму што будуюць сваю будучыню на цынічных здрадах, часовых саюзах, круцельскіх абяцаннях, ілжывых заявах. Такіх дурняў нямала, так у палітыцы, у парламенце, як і на вуліцы.

Асоба Адама Гофмана, які да нядаўняга часу раздражняльна для кіруючай ГП сваціўся ў сродках масавай інфармацыі як законапаслухмяны прадстаўнік сваёй партыі і ў той жа час у якасці дэпутата падманваў і краў дзяржаўныя грошы паказвае, што польскі палітычны істэблішмент скаціўся на дно. На жаль, не адзін такі Гофман прыклеіўся да парламенцкіх лаў. За не аднаго такога Гофмана будзе яшчэ сорамна Праву і справядлівасці. Але не толькі ПіС. Усе палітычныя партыі, дэлегаваныя выбаршчыкамі ў Сейм, маюць шмат бруду за вушамі. Не без падстаў афёра гоніць афёру, скандал папіхае скандал.

Што з'яўляецца асноўнай прычынай такога глыбокага расстрою польскай дзяржавы, яе найважнейшых інстытутаў, пачынаючы з парламента, судовай сістэмы, паліцыі, арміі, аж да пасваранага ў светапоглядным і ідэалагічным плане грамадства?

На жаль, дзяржаўны разлад павялічваецца не толькі ў Польшчы. Пацярпелі ад усяго гэтага ўсе еўрапейскія краіны. Але не толькі Еўропа. Сімптомы ўнутраных беспарадкаў бачацца амаль ва ўсіх краінах свету. Аб глабальным крызісе гаворыцца не ад сёння. І не толькі ў эканамічнай, рэлігійнай, ідэалагічнай сферах. Крызіс кранае так каштоўнасці, як і скажоныя адносіны паміж імі. Глыбокі крызіс, безумоўна, займае асноўную чалавечую каштоўнасць — справядлівасць, у кожнай яе форме: грамадзянскай, грамадскай... і проста людскай. Блез Паскаль, французскі філосаф, які бачыў у чалавеку «толькі самы кволы ў прыродзе, але думаючы трыснёг», пісаў у сваіх «Думках» такую вось рэфлексію аб справядлівасці. Больш дакладна, аб справядлівасці і сіле (улады): «Справядлівасць без сілы — бяссільная, сіла без справядлівасці — тыранічная. (...) Мы павінны тады аб'ядноўваць разам справядлівасць і сілу, і імкнуцца да таго, каб тое, што з'яўляецца справядлівым, было моцным, а тое, што з'яўляецца моцным, было справядлівым. (...) Не змаглі, аднак, даць сілу справядлівасці, таму што сіла супрацьставілася справядлівасці, і сказала, што гэта яна справядлівая. І так, не быўшы ў змозе зрабіць, каб тое, што з'яўляецца справядлівым, было моцным, зрабілі так, каб тое, што з'яўляецца моцным, было справядлівым».

Няма чаго дадаць або адняць ад слоў Паскаля. Хай, нарэшце, гэтак адбылося б у Польшчы, Беларусі, і ў любой іншай краіне, прынамсі так як ён напісаў. Толькі што філосаф напісаў, тое дурань адчытаў. І, без сумневу, гэта быў дурань інтэлігентны, які меў у пагардзе чалавечую справядлівасць.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Садзейнічанне
## мовам меншасцей

Польская сістэма адукацыі дае вучням, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей, магчымасць падтрымліваць нацыянальную, этнічную, моўную і рэлігійную тоеснасць, а менавіта, вывучаць мову ды ўласную культуру і мову, — такія словы апынуліся ў пачатку адной з брашур, спрыяючых выкарыстанню моў меншасцей, выдадзеных Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі. У суправаджальным лісце да брашур намеснік міністра гэтага ведамства Станіслаў Гусакоўскі напісаў: «Культура нацыянальных і этнічных меншасцей і мова кашубаў — неад'емнае багацце нашай супольнай айчыны. Надзвычай важнай часткай гэтага багацця з'яўляюцца мовы, якія на працягу стагоддзяў гучаць на нашай зямлі побач з польскай мовай. У час ПНР багацце нашай культурнай разнастайнасці штурхалі на абочыну. Сёння, у свабоднай Польшчы, мы разам адкрываем шматнацыянальную, полікультурную і шматмоўную гісторыю Рэчы Паспалітай». І далей: «МАіЛ вырашыла папрасіць усіх вас падтрымаць прысутнасць моў меншасцей і кашубскай мовы ў паўсядзённым жыцці. А носьбітаў гэтых моў Міністэрства хацела б заклікаць да больш эфектыўнага выкарыстання існуючага заканадаўства для абароны і падтрымкі моў меншасцей і кашубскай мовы, між іншым ужываючы родную мову ў грамадскім і прыватным жыцці (у тым ліку ў эканамічнай і сацыяльнай сферах), адукацыі дзецей на мове меншасці або рэгіянальнай мове, з выкарыстаннем правілаў датычных дапаможнай мовы і выкарыстання дадатковых назваў мясцовасцей і фізіяграфічных аб'ектаў на мовах меншасцей і на кашубскай мове». У канцы ліста віцэ-міністр Гусакоўскі сказаў: «Падтрымліваючы захаванне і развіццё гэтых моў, мы дапамагаем захаваць культурнае багацце нашай краіны. Таксама даем доказ шматвяковай талерантнасці, якою Рэч Паспалітая ганарылася ў Еўропе і ў свеце».

Адна з дзвюх брашур, якія з'явіліся ў маіх руках, і якія спрыяюць мовам меншасцей (яны апублікаваныя на дзвюх мовах: польскай і беларускай), коратка інфармуе пра тое, як падаць заяву, каб дзеці маглі пачаць іх вывучаць у школах. У звароце да бацькоў і апекуноў дзяцей, якія належаць да меншасцей, адзначаецца, што навучанне на мовах, носьбітамі якіх яны з'яўляюцца, «гэта праява павагі да мінулага і інвестыцыя ў будучыню». Другая брашура заахвочвае да выкарыстання дапаможнай мовы ва ўправах гмін населеных меншасцямі і ўвядзення на іх тэрыторыі двухмоўных назваў мясцовасцей. Яна ўключае ў сябе патрэбную інфармацыю якія прыняць меры для таго, каб гэта адбылося. У версіі буклета, адрасаванага беларусам, змяшчаецца заклік да ўвядзення дапаможнай мовы ва ўправах гмін Бельск-Падляшскі, Дубічы-Царкоўныя, Кляшчэлі і Нарва. МАіЛ нагадала (як і ў выпадку двухмоўных назваў): «Выкарыстоўваючы мову меншасці або рэгіянальную мову ў якасці дапаможнай, сведчыш аб павазе да ўласнай самабытнасці, традыцый і культуры!» Асенняя рэкламная кампанія МАіЛ для выкарыстання моў меншасцей — у адпаведнасці з яшчэ веснавымі абвяшчэннямі гэтага ведамства — як правіла, складваецца з шасці відаў дзеянняў, якія спрыяюць мовам меншасцей і рэгіянальнай мове з дапамогай улётак, брашур і інтэрнэту. Іх атрымальнікамі на польскай мове з'яўляюцца, перш за ўсё, чыноўнікі мясцовага самакіравання, навучэнцы агульнаадукацыйных школ і працадаўцы. Дзеянні, якія вядуцца на мовах меншасцей і рэгіянальных мовах, накіраваны ў той час да носьбітаў гэтых моў (м.інш. бацькоў і жыхароў мясцовасцей, населеных меншасцямі). МАіЛ прадугледжвала, каб у рэкламныя мерапрыемствы былі ўцягнуты органы мясцовага самакіравання ў раёнах іх пражывання, школы, у якіх навучаюцца мовы, ваяводскія куратары асветы, навучальныя ўстановы ўдасканалвання педагогаў, арганізацыі меншасцей і ўпаўнаважаныя прадстаўнікі ваяводаў і маршалкаў па справах нацыянальных і этнічных меншасцей.

Між тым, магчыма, што нават у гэты тэрмін (да канца засталося менш года) Сейм мае ўнесці папраўкі ў закон аб меншасцях. Сярод іншага, маюць быць уведзены вызначэнні арганізацый нацыянальных і этнічных меншасцей і культурных устаноў, якія маюць важнае значэнне для культуры меншасці. Маюць быць пашыраны на паветы магчымасці выкарыстання дапаможных моў, а таксама сфера іх прымянення. Хутчэй за ўсё, будзе знізаны з 20% да 10% парог, пры якім мовы нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальных моў могуць быць выкарыстаны ў якасці дапаможных моў і на гэтых мовах маюць быць усталяваныя дадатковыя назвы месцаў, фізіяграфічных аб'ектаў і вуліц. Войтамі, бургамістрамі, прэзідэнтамі гарадоў, старостамі, маршалкамі ваяводстваў могуць быць прызначаны ўпаўнаважаныя па справах нацыянальных і этнічных меншасцей і вызначаны іх ключавыя задачы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Самаўрадавыя выбары 2014 года

Жахлівая блытаніна пры падліку галасоў ненадзейнай камп'ютарнай сістэмай, якая прымусіла да іх ручнога падліку, мноства несапраўдных галасоў на бюлетэнях, у некаторых гмінах складўшая амаль 30%, спрэчныя выбарчыя карты ў выглядзе кніжачак, аддаючыя перавагу камітэтам з першай старонкі — гэта толькі некаторыя «адметнасці» сёлетніх выбараў у мясцовыя самаўрады. Многія валадары гмін на паўднёва-ўсходняй Беласточчыне надалей застануцца на пасадзе, у некаторых 30 лістапада адбудзецца другі тур выбараў. Аб выбарчай паразе на розных узроўнях мясцовага самакіравання могуць гаварыць ГП і СЛД, а ў выбарах у Гарадскую раду Беластока — Форум меншасцей Падляшша, які стартаваў у выбарах 16 лістапада разам з Грамадзянскай платформай. Аб поспеху — у маштабе ваяводства — несумненна, могуць гаварыць мясцовыя камітэты ад ПСЛ і ПіС. Асаблівы поспех мае «Бельская кааліцыя», свайго роду спадчыннік былога Беларускага выбарчага камітэта.

На Падляшшы пайшло на выбары трохі менш за палову выбаршчыкаў з правам голасу (48,7%). Усяго ў рэгіёне выбралі мы 2117 радных. 109 з іх былі абраныя без галасавання, таму што лік кандыдатаў быў меншы або роўны іх ліку ў радах. Два працэнты несапраўдных бюлетэняў было ўкінута ў маштабе ўсяго ваяводства.

**Гайнаўка**

На чарговы тэрмін бургамістрам Гайнаўкі будзе Ежы Сірак. Не меў ён саперніка. Выбаршчыкі пры яго прозвішчы мелі адзначыць «так» або «не». Падтрымала яго блізка 80% галасуючых. Яўка ў Гайнаўцы склала звыш 41%. Пасля выбараў Ежы Сірак нагадаў аб фундаментальных планах на бліжэйшую будучыню: стварэнне ўмоў для ўзнікання новых працоўных месцаў у горадзе і такія інвестыцыі, каб пражыванне тут было больш прывабным.

Пераважную большасць у гайнаўскай Гарадской радзе здабылі радныя з камітэта старога-новага бургамістра: Самаўрадавае пагадненне «Гайнаўская зямля» (13 радных). Тут у раду ўвайшлі таксама прадстаўнікі ПСЛ (чатырох) і Права і справядлівасці (чатырох, раней было двух). Гэтак жа, як на Ежы Сірака, давялося прагаласаваць за войта ў **Дубічах-Царкоўных** — на Лявона Малашэўскага. Падтрымку яму даў 81% выбаршчыкаў. Супраць яго было амаль 14% (менавіта 13,78%; астатнія галасы былі несапраўдныя). У выбарах прыняло ўдзел больш за 47% асоб, якія маюць права голасу.

Тут у Гміннай радзе над пастановамі будуць галасаваць чатырнаццаць радных з «ягонага» Самаўрадавага пагаднення „Гайнаўская зямля" і адзін з ПСЛ. Юры Васілюк перамог на выбарах у **Чыжоўскай гміне**. Галасы за яго аддало больш чым 80% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Тут на пасаду войта балатаваліся трох кандыдатаў. Другі з кандыдатаў Міхал Кавальчук атрымаў амаль 12% галасоў, у той час як Яўгенію Кандрацюк падтрымала амаль 8%. На выбары ў Чыжоўскай гміне пайшло 59,2% тых, хто меў права голасу.

Што цікава, у Гміннай радзе ў Чыжах будзе засядаць на чатырнаццаць радных аж трынацаць з камітэта войта, значыць, з «Нашай гміны Чыжы».

Войтам **Нараўчанскай гміны** з падтрымкай 75,8% на наступныя чатыры гады будзе 57-гадовы Мікалай Павільч з Самаўрадавага пагаднення «Гайнаўская зямля». Яго сапернікам быў 28-гадовы Данель Аніскевіч з Семяноўкі (камітэт «Маладая Нараўка»). У выбарах на войта Нараўчанскай гміны прынялі ўдзел 1781 чалавек, то-бок, 53% асоб з правам голасу. Войт Павільч (пачаў уладарыць у органах мясцовага самакіравання ў 1987 годзе ў якасці начальніка гміны) пасля чарговай перамогі сказаў:

— У нас ёсць усё больш і больш задач, якія спіхваюць на гміны, а не ідуць за гэтым грошы. Гэта найбольшая праблема цяперашніх самаўрадаў, быццам бы абавязвала правіла: самаўрад, давай сабе рады сам.

У Гміннай радзе Нараўкі засядзе па сямёх радных з камітэтаў Гайнаўская зямля і ПСЛ ды адзін з СЛД.

Будзе змена на пасадзе бургамістра **Кляшчэль**. Выконваючая гэтую функцыю на працягу апошніх чатырох гадоў Ірына Негярэвіч прайграла з Аляксандрам Сяліцкім, які быў бургамістарм у ранейшых тэрмінах, а цяпер стартаваў з Выбарчага камітэта «Пажарнік» і набраў 61,3% галасоў. Другі тур выбараў пройдзе ў той жа час у **Чаромсе**. Канкуравалі тут цяперашні войт Ежы Шыкула (43,4% галасоў у першым туры) і раней займаючы гэтую пасаду Міхал Врублеўскі (46% у першым туры).

Другі тур выбараў пройдзе таксама ў **Нарваўскай** гміне. Будуць спаборнічаць папярэдні войт і старшыня Гміннай рады. Тут за пасаду войта змагаліся тры кандыдаты: якраз цяперашняя старшыня Гміннай рады Ева Урбановіч, Давід Кучэўскі і Андрэй Пляскові, які быў абраны на пасаду войта чатыры гады таму. Не даконччыў ён, аднак, свайго тэрміну, паколькі пачуў канчатковы прысуд за пабоі. Падчас выбараў Андрэй Пляскові атрымаў больш за 46% галасоў, Ева Урбановіч — амаль 30%, а Давід Кучэўскі — больш за 24%. У Нарваўскай гміне прагаласаваць пайшло 53,2% выбаршчыкаў. Большасць здольную да ўладарання ў Гміннай радзе ў Нарве будзе мець камітэт Актыўная Нарва (васьмёра радных).

Другі тур выбараў чакае таксама жыхароў **Гайнаўскай гміны**. За крэсла войта спаборнічалі тут пяць кандыдатаў. Міраслаў Аўксэнцюк атрымаў 13% галасоў, 21,6% — Галена Багроўская, Уладзімір Галёнка атрымаў 12,2%. На Люцыну Смактуновіч з Выбарчага камітэта «Наша будучыня» аддалі свае галасы 30,6% выбаршчыкаў, на Андрэя Шварца з ПСЛ — 22,6% і ім прыйдзецца сутыкнуцца ў другім туры. У выбарах у Гайнаўскай гміне прыняло ўдзел 1906 чалавек, то-бок, 54,5% грамадзян з правам голасу. У выбарах не канкуравала шматгадовая цяперашняя войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, якая на гэты раз балатавалася ў раду Гайнаўскага павета і апынулася ў яе складзе з выбарчага камітэта Самаўрадавае пагадненне «Гайнаўская зямля». З гэтага камітэта ў гайнаўскай Павятовай радзе засядзе агулам сем радных, а з ПСЛ восем (пасля многіх гадоў СП «Гайнаўская зямля» не мае тут дэпутацкай большасці) і па адным з ПіС і ГП. Цікава, між іншым, што ў выбарах у Гайнаўскую вясковую гміну за мандат раднага спаборнічалі два кандыдаты з прозвішчам Галёнка — Уладзімір і Аляксей. Першы балатаваўся ад Платформы, другі з камітэта «Дом гміны Гайнаўка». У выбарах абодва здабылі па 43 галасы. Радным стаў, ужо ў шосты раз, Уладзімір, гэтым разам у выніку жараб'ёўкі.

**Бельск-Падляшскі**

У Бельску-Падляшскім за крэсла бургамістра спаборнічала шэсць кандыдатаў: Яраслаў Бароўскі, Юзаф Ежы Гас, Валянцін Карыцкі, Рамуальд Маргански, Ян Радкевіч і Анатоль Васілюк. Найбольш галасоў — больш за 5100 здабыў здэклараваны беларус, эканаміст Яраслаў Бароўскі з «Бельскай кааліцыі». Гэта абазначае, што з 50,1% падтрымкі выбаршчыкаў. Будзе працягваць кіраванне горадам так, як у апошні час, калі выконваў абавязкі бургамістра пасля смерці Яўгена Беразаўца. Неадкладна пасля таго як высветлілася, што стаў ён бургамістрам, у размове з Радыё Рацыя сказаў:

— Гэта не толькі мая перамога. Акрамя гэтага мы маем 9 радных у Гарадской радзе (на агульны лік 21 — М. Х.). Такога выніку мы не мелі ўжо шмат гадоў. Наш выбарчы лозунг: «Новы погляд на горад». Гэта значыць, што няўрадавыя арганізацыі, таварыствы, простыя людзі могуць прапанаваць свае ідэі, а задача гарадской улады — знайсці сродкі для ажыццяўлення гэтых задум. Яшчэ з пачатку мінулага года мы імкнуліся паказаць, што гэта не аўтарытарная ўлада, а ўлада адкрытая на людзей. Людзі прапанавалі 23 праекты, 17 з іх ухвалілі, звыш 2600 чалавек прагаласавала за згаданыя праекты. Гэта паказвае, што жыхары Бельска хочуць прымаць актыўны ўдзел у жыцці горада. Хачу таксама адзначыць, што з 6 кандыдатаў на пасаду бургамістра 3 першыя месцы ў выбарах занялі кандыдаты ад невялікіх лакальных камітэтаў. Гэта не былі кандыдаты ад партый. Гэта паказвае, што наш горад не хоча партый, а хоча тых, хто жыве ў горадзе і мае свой погляд на тое, як горад мусіць развівацца. Таксама і ў Гарадской радзе ў нас будзе толькі 5 партыйных кандыдатаў, 16 кандыдатаў непартыйных. Гэта таксама паказвае, што мы не хочам ні з кім сварыцца, мы хочам рабіць добрую справу ў горадзе для яго жыхароў. І нельга забываць пра суседзяў, пра Орлю, пра Чыжы, нам трэба супрацоўнічаць.

Гарадскімі раднымі ад імя «Бельскай кааліцыі» ў Бельску сталі: Тамаш Суліма, Пётр Асташэўскі, Юры Чачуга, Яўгенія Крук, Іона Бялецкая-Уладзіміраў, Андрэй Рошчанка, Ігар Лукашук, Пётр Вавульскі і Аляксандр Божка. Акрамя таго, у бельскай ГР засядуць трох прадстаўнікоў камітэтаў «Нашае Падляшша», СЛД і «Для Бельска», двух ад ПіС і адзін з «Кааліцыі Адзінства». У радзе Бельскага павета ад імя «Бельскай кааліцыі» засядуць Васіль Ляшчынскі, Пётр Божка, Марыя Рыжык, Міраслаў Бало. Астатнія мандаты выбаршчыкі раздзялілі паміж «Нашае Падляшша"(5), ПСЛ (4), Права і справядлівасць (3), СЛД (1).

Жыхары **Бельскай гміны** маглі выбраць на войта аднаго з трох кандыдатаў. За пасаду кіраўніка гміны стараліся Міраслаў Якубюк, Раіса Раецкая, Ваўжынец Казімеж Віхроўскі. Гмінай будзе кіраваць папярэдняя войт Раіса Раецкая пры падтрымцы больш чым 70% выбаршчыкаў. У бельскай Гміннай радзе будзе дзевяць прадстаўнікоў «Нашага Падляшша» і па двух ад ПСЛ, СЛД і Бельскай кааліцыі.

Амаль чатыры тысячы маючых права голасу ў **гміне Боцькі** выбіралі сярод трох кандыдатаў. Былі імі Станіслаў Дэрэгайла, Зоя Юрчак і Адам Круль. Найбольш галасоў — 1132 — здабыў дзейсны войт Станіслаў Дэрэгайла і пры падтрымцы каля 51% выбаршчыкаў узначаліць гміну.

працяг ☞11

## Гадзіна праўды

Першы тур самаўрадавых выбараў за намі. І хоць у мас-медыях шмат супярэчнасцей і хвалявання выклікала справа аварыі сістэмы лічэння галасоў, у Чаромхаўскай гміне выбары прайшлі, можна сказаць, акуратна. Праўда, ад выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Чаромха 2014» (Міхала Врублеўскага) паступіла заява ў органы правапарадку аб знішчэнні ў публічных месцах выбарчых спіскаў, прытым аб замазванні чырвонай фарбай прозвішчаў некаторых кандыдатаў іхняга камітэта, але гэта была інцыдэнтальная вылазка і наогул не паўплывала на вынік выбараў. Варта адзначыць, што вышэйзгаданы камітэт на пятнаццаць выбарчых акруг перамог у пяці акругах і ўвёў пяць радных, а саперніцкі выбарчы камітэт «Згода і развіццё» ўпраўляючага войта Юрыя Шыкулы здабыў два мандаты. Такі ж лік мандатаў атрымалі выбарчыя камітэты «Наша маёўка» і ПСЛ, затым па адным мандаце «Прыязны транспарт», «Лепшае заўтра Чаромхі», «Разам развівайма Чаромху» і «Чаромха разам». У акрузе № 13 кандыдаты на радных Алеся Храмінская і Гражына Назарук атрымалі аднолькавы лік па 30 галасоў і ў выніку жараб'ёўкі мандат радной атрымала Алеся Храмінская з Пагулянкі.

Паводле спіскаў Гміннай выбарчай камісіі, правам голасу распараджаўся 2 961 выбаршчык, з ліку якіх гэтым правам пакарысталася 1 706 грамадзян, што складае ў агульным ліку 57,62% яўкі. Старшыня Гміннай выбарчай камісіі Валянціна Верамчук паведаміла, што гэта каля дзесяці працэнтаў менш, чым у выбарах 2010 года.

У першым туры Міхал Врублеўскі перамог Юрыя Шыкулу 45 галасамі (766 : 721). Ежы Сцяхура атрымаў 176 галасоў. Усё прадказвае, што гэты апошні перадасць свае галасы Міхалу Врублеўскаму. Хто пераможа, цяжка сказаць. Апошні тыдзень перад выбарамі для абодвух кандыдатаў будзе даволі працавіты, а барацьба заўзятая. Абодва сапернікі не шкадуюць узаемных абвінавачванняў, неадночы непраўдзівых. І гэта мяне засмучае. 30 лістапада наступіць гадзіна праўды. Гэта жыхары Чаромхаўскай гміны выявяць каму даверацъ свой лёс на чарговыя чатыры гады. Каб адно разважліва і прадумана прагаласавалі.

## У чым праблема?

Жыхары вёскі Кузава пытаюць, чаму не могуць аглядаць Беластоцкага рэгіянальнага тэлебачання. Калі пачала працаваць лічбавая платформа, дык прапаў Беласток. Усе тэлеканалы публічнага тэлебачання бачны ідэальна, але хоча чалавек аглянуць навіны з ваяводства або «Беларускі тыдзень», а тут... няўдача. Нейкія зігзагі паяўляюцца. Не памагаюць дэкодэры, ні іншыя ўстаноўкі. Затым кузаўцы вымушаны карыстацца перадачамі Люблінскага тэлецэнтра. У чым прычына? — пытаюць.

**Уладзімір СІДАРУК**

## У Тарнопалі вуліцы маюць назвы

29 жніўня гэтага года на сесіі Гміннай рады ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) радныя пастанавілі назваць некаторыя вуліцы ў вёсцы Тарнопаль, ад якой да Семяноўскага возера рукой падаць. Гэтак — калі вуліцы маюць назвы — лягчэй будзе знайсці той ці іншы дом або таго ці іншага жыхара гэтай сярэдняй па колькасці жыхароў вёскі (у ёй пражываюць 123 чалавекі). Тут шмат прыгожых дачных домікаў. Кожнае лета і да позняй восені сюды прыязджае адпачываць многа людзей. Вядома, побач возера і грыбныя лясы. Цяпер у Тарнапалі вуліцы маюць наступныя назвы: Сьвяркова, Бярозавая, Сасновая, Акацыёвая, Ясянёвая і Палявая. **(яц)**

# Дамашнія піваварі з Падляшша

На Падляшшы штораз больш людзей займаецца дамашнім піваварэннем. Нядаўна паўстала нефармальная арганізацыя „Піваварнае Падляшша", якая аб'ядноўвае вытворцаў і фанатаў піва з усяго ваяводства. Арганізаваныя ёю конкурсы на найлепшае дамашняе піва прыцягвалі сотні людзей, прагных пасмакаваць добрага напітку. Здаецца, што піўное шаленства, гэта штосьці больш чым пераходная мода.




Фота Славаміра Юрчука

Пераможцы конкурсу на найлепшае дамашняе піва Лукаш Леанюк і Давід Бобрык

### Піўная рэвалюцыя на Падляшшы

Піваварэнне на Падляшшы стала папулярным дзякуючы Чэславу Дзелаку з Вылудак, што пад Карыцінам. Менавіта ён з'яўляецца пераможцам самага прэстыжнага конкурсу на дамашняе піва „Бірофілія-2013". Сваю перамогу, як ніхто раней, паўтарыў і ў сёлетнім выпуску конкурсу. Яго дасягненні ў піваварнай галіне былі заўважаны лакальнымі СМІ, што дадаткова паўплывала на папулярызацыю хатняга піваварэння ў раёне.

Нядаўна фанаты дамашняга піва заснавалі арганізацыю „Піваварнае Падляшша". Яе сябры на сустрэчах абменьваюцца прыдатнай інфармацыяй, вопытам і ўласна падрыхтаваным півам. Ладжаныя імі конкурсы карысталіся вялікай папулярнасцю сярод жыхароў Беластока.

— У Польшчы ўспыхнула піўная рэвалюцыя. Вяртаемся да напояў з невялікіх бровараў, якія вараць піва ў розных, арыгінальных стылях, з выключным смакам, — кажа Чэслаў Дзелак. — Малыя бровары гэта соль піваварства. Пакуль што няма іх на Падляшшы, а добрае піва можна купіць у некалькіх крамах Беластока, або паспрабаваць у хатніх вытворцаў.

Кожны, хто хоча прадаць піва, якое сам вырабляе, нават калі ідзе пра пару бутэлек, павінен выконваць тыя ж самыя юрыдычныя патрабаванні, што прамысловыя півварні. Таму, як падкрэслівае Чэслаў Дзелак, малых падляшскіх бровараў трэба будзе пачакаць.

### Піва ад пачаткаў цывілізацыі

Гісторыя піва сягае старадаўніх часоў неаліту. Найперш пілі яго на тэрыторыі Месапатаміі. І хаця сёння піваварэннем галоўным чынам займаюцца мужчыны, гэта якраз жанчына з'яўляецца вынаходніцай залатога напітку. Вось, дзесьці на „Урадлівым Паўмесяцы" Міжрэчча Тыгра і Еўфрата ды басейн Іардана мела месца сварка мужыка з жонкай. Яна падрыхтавала мужу на абед зерне ячменю, а той не хацеў яго з'есці. Зерне ячменю ў місцы трапіла за палатку і пад уплывам месапатамскага сонца пачало закісаць. Раніцай жанчына адцадзіла дзіўны напой, вырашыўшы, што якраз гэтым атруціць няўдзячнага мужа. Дадала да таго крыху нарэзаных фінікаў, каляндры і зелля руты, каб здавалася смачнейшым, і пакінула ў халодным месцы. Працягу гэтага падання кожны можа дадумацца. Вядома, мужык не памёр, а напой з таго часу пачаў распаўсюджвацца па ўсім свеце. Фактам з'яўляецца тое, што відавочна напой пасмакаваў самому Хамурапі, які моцна супрацьставіўся псаванню піва. Таму ў звод сваіх законаў занёс запіс аб тым, якая частка цела будзе адсечана півавару за падобнае парушэнне.



Чэслаў Дзелак – пераможца міжнародных прэстыжных конкурсаў на дамашняе піва

З гэтымі спрадвечнымі правіламі пагаджаецца Дар'юш Сокал, знаўца алкагольных напіткаў, уладальнік крамы ў Беластоку, якая спецыялізуецца ў продажы піва і віна.

— Калі піва добра зробленае, яно здаровае. Не маю тут на ўвазе гэтых, якія прадаюць вялікія канцэрны. Увогуле, абапіраўшыся на навуковыя даследаванні, піва лепшае для чалавека чым вада. Паводле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя дарослы мужчына можа выпіць 10 бутэлек піва на тыдзень.

### Культура піцця піва

Дамашніх піваавараў турбуе тое, што асобы, якія лічаць сябе інтэлектуаламі, п'юць піва безрэфлексійна. На іх думку добра, калі піццё піва спадарожнічаюць размовы пра важныя для чалавека справы, але, як аказваецца, самое піва можа быць таксама добрай тэмай гутаркі.

— Феноменам нябеснага напою з'яўляецца яго разнастайнасць, якую дасягаецца з дапамогай толькі чатырох асноўных кампанентаў: вады, саладавага збожжа, дражджэй і хмелю. Іх правільнае выкарыстанне дазваляе атрымаць піва, якое пахне грэйпфрутам, шакаладам ці кветкамі, — гаворыць Чэслаў Дзелак. — Вялікія бровары робяць піва малавыразнае, каб смакавала ўсім. Вядома, калі піва нечым характэрнае, аднаму будзе смакаваць, а другому не. Дамашніх піваавараў нішто не абмяжоўвае, мы можам варыць тое, што нам прыйдзе ў галаву.

Піўныя варыяцыі дамашніх піваавараў з Падляшша будзе можна неўзабаве паспрабаваць у чарговым выпуску конкурсу на найлепшае дамашняе піва. Па словах Чэслава Дзелака, гатовых змагацца за званне найлепшага піваавара ўжо больш за сорак. На першым выпуску конкурсу перамаглі Давід Бобрык і Лукаш Леанюк з Беластока.

Вікінгі, якія пачалі варыць піва каля 700 года, уяўлялі сабе неба як вялікі стаў піва. Верагодна, тут на зямлі, прадчуваннем таго з'яўляецца куфаль піва падрыхтаванага з пасіяй.

**Уршуля ШУБЗДА**



Фота Улі Шубзды

Члены арганізацыі „Піваварнае Падляшша" і ўдзельнікі конкурсу на найлепшае дамашняе піва

# X Мастацкія сустрэчы школьнікаў

На юбілейныя «**Мастацкія сустрэчы школьнікаў**», якія адбыліся 9 лістапада ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыбылі дашкольнікі, вучні падставовых школ, гімназій і белліцэя. Маладыя акцёры, спевакі і танцоры паказалі свае мастацкія здольнасці і ўмеласці. Паглядзець выступленні з беларускім словам і танцамі прыбылі бацькі і гайнавяне. Мерапрыемства ўдастоілі гайнаўскі бургамістр Ежы Сірак, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і кіраўнік гайнаўскага аддзялення Касы сацыяльнага сельскагаспадарчага страхавання Міраслаў Раманюк. Дзясяты выпуск «Мастацкіх сустрэч школьнікаў» вылучаўся жартоўнымі выступленнямі белліцэістак і малодшых вучняў.


Дашкольнікі з Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы

— Я рады, што паглядзець выступленні дашкольнікаў і вучняў прыбыло так многа бацькоў і жыхароў горада. Гэта дае падставу меркаваць, што такое мерапрыемства патрэбнае і варта яго ладзіць у будучыні, — сказаў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі, які адкрыў і ўдала вёў усю беларускую імпрэзу. Ён — ініцыятар і галоўны арганізатар «Мастацкіх сустрэч школьнікаў», якія дапамагаюць яму ладзіць працаўнікі Гайнаўскага белмузея.

Кіназала Гайнаўскага белмузея хутка запоўнілася публікай. Першымі ў прыгожых касцюмах выступілі дашкольнікі з Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якія цікава і адважна гаварылі прымаўкі і кароткія вершыкі на мясцовай гаворцы. Падрыхтавалі іх Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, якія ў садку вядуць гуртох беларускай культуры і мясцовых традыцый. Рыхтавалі яны дзетак да конкурсаў «Роднае слова» і «Сустрэчы з праваслаўнай калядкай», знаёмілі з даўнімі рамёствамі. Хаця ў гэтым годзе ў гуртку пачалі займацца новыя дзеткі, аднак паспелі яны вывучыць новы рэпертуар на музейнае мерапрыемства.

— Мы падрыхтавалі новы рэпертуар, у якім дзеткі гавораць на мясцовай гаворцы. Вучылі мы дашкольнікаў пра восень і грыбы, што яны цяпер прадставілі. Рады мы, што дзеткі навучыліся нашых выслоўяў і вершыкаў. У нашым садку заняткі па нашых традыцыях і культуры вялі старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік, а спяванню вучыла Анна Фіёнік, музычны кіраўнік «Жэмэрвы». Яны яшчэ больш заахвоцілі нас прытрымлівацца народных традыцый і размаўляць з дзеткамі на гаворцы, — сказала Міраслава Ніканчук.

— Нашы дзеткі ахвотна рыхтаваліся да выступаў, бо ведалі, што гледачамі будуць іх бацькі. Сустрэчы школьнікаў — добрая нагода дзеткам запрэзентавацца перад публікай. Калі мерапрыемства цяпер спадабаецца наймалодшым, тады і пазней ахвотна будуць прымаць удзел у конкурсах, — сказала Ала Супрун, якой, так як і Міраславе Ніканчук, былі прызначаны падарункі за падрыхтоўку дашкольнікаў да «Мастацкіх сустрэч школьнікаў». За пасяховы ўдзел вучняў у мерапрыемстве дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк уручыў яшчэ падарункі настаўніцам беларускай мовы Марыі Крук, Анджаліне Масальскай і Анне Франкоўскай.

Удала выступілі здольныя гайнаўскія белліцэісткі Магдалена Гаўрылюк і Марыя Краўчык. Магдалена займальна дэкламавала, а разам з Марыяй выступіла з жартоўным дыялогам «На з'езд выпускнікоў», якога аўтарам з'яўляецца Янка Карчэўскі. Напісаў яго перад з'ездам выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя, які адбыўся ў пачатку чэрвеня гэтага года. Белліцэісткі ўдала ўвасобіліся ў вясковых выпускніц белліцэя, якія, збіраючыся на з'езд, успаміналі здарэнні з жыцця гайнаўскай школы. Дзяўчаты паказалі свае акцёрскія здольнасці і ў вялікай часткі публікі, якая вучылася ў Гайнаўскім белліцэі, выклікалі ўспаміны са школьных гадоў. Магдалена Гаўрылюк — вядомая гайнаўская публіцы, паколькі раней выступала ў белмузеі з дэкламацыяй па-беларуску і паказала свае ўмеласці падчас тэатральных выступленняў, падрыхтаваных пад наглядам прафесійнай акцёркі Іаанны Стэльмашук-Троц. Падчас свайго апошняга выступлення яна толькі пацвердзіла, што нездарма хоча паступаць у тэатральную школу.

— Я многа выступала з дэкламацыяй па-беларуску, а таксама ў спектаклях на беларускай мове, а тут ёсць чарговая нагода падтрымаць беларускую мову і нашы традыцыі, — сказала Магдалена Гаўрылюк, якая выступіла па-майстэрску.

Марыя Краўчык вельмі ўдала запрэзентавалася ў дуэце. Прызналася яна, што раней толькі адзін раз выступіла перад белліцэйскай публікай на святкаванні Дня настаўніка. Запрэзентавала тады манадраму «Два светы настаўніцы», якой аўтарам таксама з'яўляецца Янка Карчэўскі. Гэтую манадраму яна прадставіла і ў белмузеі.

— Я ўжо раней напісаў тэкст песні для нашых белліцэістаў. Цяпер напісаў тэкст манадрамы, — сказаў Янка Карчэўскі, таксама арганізатар «Беларускай гавэнды».

Настаўніца Анна Франкоўская ў мінулым вучыла беларускай мове ў Непублічнай падставовай школе ў Арэшкаве, а з верасня гэтага года стала вучыць у Комплексе школ № 3 у Гайнаўцы. Паспела яна падрыхтаваць да выступаў вучняў, частка з якіх ужо раней прэзентавалася ў белмузеі пад кірункам настаўніц беларускай мовы Людмілы Грыгарук і Беаты Кендысь.

— Мы хваляваліся, бо ўпершыню выступалі перад вялікай публікай. Але зараз рады, што паказалі нашае прадстаўленне. Цікава таксама паглядзець выступы іншых. Мы прыходзілі ўжо ў музей, калі вучылі нас саломапляценню, — сказалі вучні пятага класа ПШ № 6 у Гайнаўцы Іаанна Хомчук, Агата Бандарук, Магдалена Ціханюк і Давід Ціханюк, якія выступілі ў прадстаўленні «Багач».

— Мы раней выступалі тут з танцамі, якія з дапамогай настаўніцы беларускай мовы Беаты Кендысь падрыхтаваліся да беларускіх песень. Сёння хочам запрэзентавацца ў народных касцюмах, пазычаных ад танцавальнага калектыву «Перапёлка», што дзейнічае ў Гайнаўскім доме культуры, — сказалі вучаніцы Гімназіі № 3.

Многа прапаноў пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Марыі Крук падрыхтавалі вучні Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы.

— Нашы вучні вельмі ахвотныя выступаць перад бацькамі і публікай. Сёння прэзентуюцца вучні чацвёртага класа і спевакі з калектыву «Лясныяноткі». Падрыхтавалі мы танцы і беларускія творы, — сказала настаўніца Марыя Крук, апякунка «Лясных нотак».

Цікава і адважна запрэзентаваліся таксама дзеткі з Белавежы, якія пад апекай Анджаліны Масальскай займаюцца ў калектыве «Сунічкі». Акампанемент на акардэоне саставіў ім Марк Зубрыцкі, музычны кіраўнік белавежскага «Ручайка».

— Нам цікава выступаць з беларускімі песнямі, — заявілі Амэлька і Алівія з «Сунічак». Іх настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская сказала, што дзяўчаты з вялікай цікаўнасцю рыхтавалі новы рэпертуар па-беларуску, каб выступіць перад публікай. У гэтым годзе «Сунічкі» ўдала выступілі ў Белавежы падчас «Ператоча» і агляду мастацкіх калектываў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА


Вучні пятага класа ПШ № 6 у Гайнаўцы выступілі з прадстаўленнем «Багач»



## Брама на Усход

Чым напоўніць лозунг „Падляшскае адкрытае"? Ці не лепш быць „Брамай на Усход" чым „Усходняй сцяной"? Як павысіць узровень уласнай атракцыйнасці на агульнапольскай і міжнароднай арэне? — такія пытанні разглядаліся ўдзельнікамі беластоцкай рабочай сустрэчы, арганізаванай Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства і Асяродкам падтрымкі няўрадавых арганізацый, прысвечанай дэталёваму разгляду запісаў праграмы „Падляшскае адкрытае" — часткі Стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства да 2020 года.

Падобныя пасяджэнні ладзіліся ўжо ў дзясятках месцаў нашага ваяводства. Прадметам аналізу была адкрытасць у рамках сацыяльнага капіталу, шматкультурнасці і трансгранічнасці. Іх удзельнікі супольна спрабавалі знайсці адказ на пытанні як эфектыўна карыстацца культурнай спадчынай рэгіёна, блізкасцю мяжы і лакальным супрацоўніцтвам розных асяроддзяў і ўстаноў.

У дэбатах, якія адбыліся ў беластоцкай кавярні „У старым кіно", апрача арганізатараў удзельнічалі, між іншым, прадстаўнікі Універсітэта ў Беластоку, Сеткі ўніверсітэтаў паграніччa, Беластоцкай палітэхнікі, члены Федэрацыі няўрадавых арганізацый.

Арганізатары гарантавалі, што ўсе ідэі, якія ўзнікнуць у час сустрэч, пяройдуць дыягназ, вынікі якога будуць вядомыя праз паўгода. Апрача таго ідэі будуць занесены ў сталыя справаздачы, адрасаваныя кіруючаму калектыву. Плёнам згаданых дэбатаў будзе спецыяльна падрыхтаваны дакумент у форме канкрэтнай аперацыйнай праграмы, якую вынесуць на пасяджэнне сейміка з прызначэннем на рэалізацыю. Адначасова ў сувязі з гэтым прадбачваецца паступовае праўдзенне акцыі здабывання фінансавых сродкаў.

Да ўдзелу ў справе заахвочвае таксама ўжо дзейсны інтэрнэт-партал **podlaskie-otwarte.pl**. Тут зацікаўленыя арганізацыі, фірмы і дзеячы бясплатна памесцяць сваю прапанову ў базе, календары падзей і на карце. Партал будзе даступны на чатырох мовах: польскай, беларускай, рускай і англійскай. З яго зместам змогуць пазнаёміцца карыстальнікі з усяго свету.

Удзельнікі беластоцкага працоўнага калектыву аднагалосна заўважылі, што не зможам поўнасцю пакарыстацца культурнай разнастайнасцю, культурнай спадчынай, блізкасцю мяжы, калі не ўзнікне супрацоўніцтва паміж установамі і арганізацыямі ўнутры рэгіёна, а таксама з суседзямі за ўсходняй мяжой. На перашкодзе ў здзяйсненні згаданага тэзісу могуць стаяць недахоп выпрацаваных метадаў супрацоўніцтва, у тым ліку трансгранічнага, а таксама складаныя адносіны з Усходам. Паспрыяе адносна дастатковае веданне моў суседніх краін і доступ да еўрасаюзных інструментаў. У час сустрэчы паявіліся таксама канкрэтныя вырашэнні адносна самага лепшага выкарыстання памежнага распалажэння нашага рэгіёна. Прапанавалі, між іншым, заснаванне трансгранічнага адкрытага ўніверсітэта з абменам кампетэнцыямі, у тым ліку кадравых рэсурсаў, арганізацыю грамадзянскіх кавярняў як месцаў трансгранічных дэбатаў, паездкі ў гаспадарчыя місіі, кірмашы, падтрымка гмін Сувальшчыны ў іх імкненнях увядзення бязвізавага руху з Калінінградскай вобласцю.

У кантэксце шматкультурнасці Падляшскага ваяводства абмяркоўваліся магчымасці карыстання тэрмінам „разнароднасць", які больш яднае чым дзеліць. Прапанавалася таксама стварэнне стратэгіі развіцця культуры ваяводства. Удзельнікі заўважылі неабходнасць „падавання" шматкультурнасці ў форме больш сучаснай, цікавай маладому пакаленню. Шукалі таксама вырашэння праблемы, якая пастаянна турбуе самаўрад ваяводства, а менавіта недахоп самаўрадавай супольнасці. Мабыць, ён важнейшы чым раз'ядноўваючы жыхароў вядомы канфлікт звязаны з самой назвай „Падляшша". Задумваліся як заступіць канкурэнтаздольнасць супрацоўніцтвам і як пазбыцца недахопаў у адукацыі ў кантэксце ведаў пра лакальную культуру.

Іаанна ЧАБАН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Гайнаўка праўдзіва ўразіла

— Ці пані ёсць шчаслівая? — гэта было першае пытанне да мяне.

Тут аж хацелася адказаць словамі Сакрата Яновіча, які калісь тлумачыў нам, пачаткоўцам у літаратуры, што шчаслівыя людзі гэта ідыёты і яны не бываюць аўтарамі! Бо важкая публіцыстыка і мастацкая літаратура — гэта штодзённае змаганне.

Гэтага пісьменніка, за яго крытычныя словы, недалюблівалі ў нашых ліцэях.

Ніхто не падумаў як балела яго абыякавасць да роднага слова.

Едучы на першую аўтарскую сустрэчу ў беларускі ліцэй я баялася сустрэчы з „заспанай” залай.

Гайнаўка аднак праўдзіва мяне ўразіла і ўцешыла.

Цягам дзвюх гадзін гімназісты і ліцэісты безупынна ставілі мудрыя пытанні. Найперш пра „кухню” журналісцкай працы і пісання кніжак. Пра аўтарытэты ў літаратуры і ў жыцці. Пра ролю сяброў і сяброўства. Пра мары, падарожжы і шчасце. Рэй вяла інтэлігентная Дар'я Чыквін, за ёю пайшлі іншыя, ды так панясло-паплыло... жывым патокам думак і вобразаў.




Таму мой адказ на пытанне пра шчасце быў просты і шчыры. Калі на перапынку ў школьную бібліятэку завітаў адзін ліцэіст і з парога загаварыў з бібліятэкаркамі па-беларуску, я перажыла свае пяць хвілін шчасця. А пасля гэтае шчасце расцягнулася на дзве гадзіны, калі дзяўчаты і хлопцы свабодна выказвалі свае думкі па-беларуску, пыталі пра сучасную беларускую літаратуру, пра „Ніву”, калі амаль фізічна адчувалася іх любоў і сімпатыя да культуры нашых продкаў. І калі адна дзяўчынка, якую назвалі маёй зямлячкай, спецыяльна на гэтую сустрэчу апранулася ў беларускую вышыванку.

Сустрэчу падрыхтаваў і арганізаваў настаўнік Ян Карчэўскі. За гэта яму вялікае дзякуй!!! Бо ў ліцэі, які я сама закончыла трыццаць гадоў таму, я сустрэла сваіх настаўнікаў і адчула сябе, як нашыя сябры, вучаніцай.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Вікторыя БАРЭЧКА, Тарнопаль, школа ў Нараўцы*

## Дух

*Маленькая Розі,*
*Ляжыш сярод аплакваючых*
*Цябе людзей.*
*Абдымаюць цябе бацькі*
*І ты рэагуеш*
*На іх далікатны дотык.*
*Ты адчуваеш іх каханне,*
*Але ведаеш, што ўсё скончана.*
*Калыска вечнага сну*
*Мяккая, але не адчуваеш гэтага.*
*Чуеш толькі гукі.*
*Гучаць, падскокваючы,*
*Слёзы на дыване.*
*Не ведаеш, што адбываецца,*
*Але праз некаторы час*
*Сустракаеш Яго.*
*Ён бярэ цябе туды,*
*Дзе будзеш чакаць Іх.*

*Караліна КАРАВАЙ, Нараўка*

## Дзякуй

*Сёння бачу цябе шчаслівым*
*Пазбаўленым болю.*
*Здаецца, не памятаем гэтага дня.*
*А я аднак чую...*
*Хаця многа рэчаў не разумею*
*І мова твая загадка,*
*Гаворыш мне дзякуй...*

# І мы былі на „Трохгалоссі”



22 кастрычніка вучні нашай школы прымалі ўдзел у „Паэтычным трохгалоссі” — дэкламатарскім конкурсе, які арганізуе Бельскі дом культуры. Дэкламатараў у нас было шмат, бо аж 12 асоб. Нашу школу рэпрэзентавалі вучні першага, пятага ды майго, шостага, класаў. Я і мае сяброўкі Оля Салавянюк, Оля Раманюк, Габрыся Торка і сястра Зузя доўга рыхтаваліся да конкурсу, але было варта! Оля Раманюк заняла другое месца, Оля Салавянюк — чацвёртае, а я атрымала вылучэнне. Думаю, што і праз год паспрабуем зноў прыняць удзел у „Трохгалоссі”.

**Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ**, НШ свсв Кірыла і Мефодзія ў Беластоку

**Загадкі з роднай хаткі**

# Увага, конкурс!!! (№ 48-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 14 снежня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Звер спыніўся
ля яліны,
Скінуў рогі, як галіны.
Напалохаў ён варону:
— Кар-роль згубіў
кар-рону!
Л...

(Н. А. Сторажава)

**2.**

Чорнае сукно
Лезе праз акно.
Н..

Не сыдзе з месца
Ні на крок,
Зарыўшыся ў пярыну.

Цярэбіць ціхі вецярок
Ягоную чупрыну.
А возьмуць за чупрыну
Ды выцягнуць
з пярыны —
Пачырванее, нібы рак.
Вядома хто гэта...
Б....

(Рыгор Барадулін)

**Адказ на загадкі № 45-14: певень, арабіна, апенькі.**

**Узнагароды, кампакт-дыскі з беларускай музыкай, выйгралі Бартэк Чмярыс, Юлія Шляжэўская, Міхал Тапалянскі з Нарвы, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# У Гарадок завіталі вучні з Гродна

14 лістапада ў Комплекс школ у Гарадку прыехалі госці з Гродна. Вучні і настаўнікі Сярэдняй школы № 22 у Гродне прыехалі з самай раніцы ў нашу школу. Прывіталі іх спадарыні дырэктар Анна Грыцук і Данута Гаркоўская супольна з вучнямі і настаўнікамі.

Напачатку настаўнік гісторыі Аляксандр Карпюк расказаў па-беларуску пра музей „Старая хатка”, які знаходзіцца на другім паверсе школы. Госці з цікавасцю разглядалі сабраныя экспанаты, а спадар Карпюк прыблізіў гісторыю Гарадка. Вельмі цікава было паслухаць, таксама нам, вучням, як жылі даўней людзі, пра заслугі роду Хадкевічаў для Гарадоцкай зямлі, а таксама пра пасляваенныя змены пасля бежанства і пра ўплыў на жыццё жыхароў Гарадка пабудовы жалезнай дарогі. Настаўніцы з Гродна напісалі колькі крылатых слоў у хроніцы „Хаткі”.

З другога паверха мы правялі гасцей на сам ніз, дзе яны паглядзелі „Ізбу традыцыі”. Там настаўніца польскай мовы Альжбета Грэсь расказала пра гісторыю школ і пра сабраныя здымкі з даўніх часоў.

Для гасцей была падрыхтавана мастацкая частка. Напачатку дзеткі I класа праспявалі беларускія песні, якіх навучыла настаўніца Тамара Бялькеіч. Пазней гімназісты, пад кіраўніцтвам Альжбеты Раманчук, паказалі „Жывінкі з глыбінкі”. Школьнікі з калектыву „Казка” праспявалі тры песні, якіх навучылі іх Катажына Кокець і Марыя Абрамовіч. Песня пра сяброўства закончыла выступленні гарадоцкіх вучняў. Тады на сцэну выйшлі гродзенскія вучні. Усіх захапіў танец 9-гадовай Дашы. А выключна хлопцам спадабалася песня Насці, якую ўсе прасілі аўтографаў.

Пасля ўзаемнага абмену падарункамі ўсе былі запрошаны на пачастунак, дзе маглі мы пазнаёміцца бліжэй.

Госці былі ўдзячны за цёплы прыём і запрасілі нас у Гродна.

**Ізабела Мялешка,**
*другі «а» клас Гімназіі імя Роду Хадкевічаў у Гарадку*



Малюнак Агнешкі Петручук, Юліты Грыко, Магды Бяляўскай

# ВАРОНА І РАК

*(беларуская казка)*

Ляціць варона і бачыць: на беразе ракі паўзе рак. Варона схапіла рака і ўзляцела на дрэва. Сядзіць варона на дрэве і трымае рака ў дзюбцы.

„Цяжкая справа”, — думае рак і гаворыць:

— Ах, варона, варона! Які ў цябе слаўны бацька! Якая добрая маці! Ваша сямейка — што б не сказаць, цудоўныя птушкі!

— Ага, — дае адказ варона і ўсё трымае рака ў дзюбе.

— Які ў цябе храбры брат! Якая сястра прыгажуня! — цягне рак.

— Ну так, — пагаджаецца варона, — ну так!

— Ах, варона, варона, — зноў бярэ слова рак, — усе ў тваёй сям'і добрыя, слаўныя і прыгожыя, аднак не такія як ты. Ты самая мудрая і прыгожая птушка на свеце.

— Пэўна, што я! — каркае варона і шырока адкрывае дзюбу.

А рак, бух у ваду, схаваўся і смяецца.

*(гак)*

*Вікторыя ГОБЕЦ, Міхалова*
*Наталля ВАСЬКО, Кабыльнянка*

## Дзіцятка

*Я яшчэ дзіцятка малое,*
*Ды і вельмі гаваркое.*
*У школе самыя пяцёркі збіраю,*
*Настаўніца мяне добра ўспрымае.*
*А пасля школы, пасля вучобы*
*Танцую, спяваю і гуляю,*
*Як дзіцятка малое!*

*Наталля АЛЕКСЯЮК,*
*Тапаляны, школа ў Міхалове*

## Гадзіннік

*Гадзіннік стукае цікі-так,*
*Яська не паспее на баль!*
*Ідзе хутка праз садок,*
*Але дарогі не ведае...*

# Вершы Віктара Шведа

## Малпаў штораз меней

Запыталі дзеці
Дзядулю Валодзю:
— Ці людзі на свеце
Ад малпаў паходзяць?

— Пішуць у газетах
Гэта без сумнення.
— Таму малпаў гэтых
Ужо штораз меней.

## Гневы ад спеваў

—Гэта скандал, гэта шок!
Спыніла спеваў урок
Мая дачка спявачка,
Выў страшна ваш сабачка!

— Прабачце нам, суседка,
Здарэнне дык на рэдкасць.
Не сабакі тут віна,
Першай пачала яна.

## Даўжэй будзеш жыць

Скардзіцца дачушка Зося:
— Здавала я экзамен зноў,
Здаць мне чамусьці не ўдалося,
Няма вадзіцельскіх правоў.

—Не смуткуй дзяўчо няспынна,
Адазваўся дзедка Грыць.
— Адмовішся ад машыны —
Даўжэй на свеце будзеш жыць.

## Ці магу купацца?

— Ці магу я, матка,
Выкупацца ў моры?
— Ні ў якім выпадку,
Ты ж паважна хворы.

Толькі глянь, дзіцятка,
Мора збунтавана.
— Купаецца ж татка.
— Ён застрахаваны.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 44:

Вочы, гоп, га, вяргінія, кніга, Ітака, пацан, карта, Ас, плот, мост. Пуп, як, акно, чарніца, гітара, гігант, ганак, пляж, рост.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Вікторыя Раеўская, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Алек Чарнецкі** з Нараўкі, **Караліна Пораць, Міхал Тапалянскі, Дыяна Хіліманюк** з Нарвы, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Юля Жукевіч** з Бабікаў, **Паўліна Ліхань, Вераніка Аксюцюк** з Міхалова, **Габрыела Красько** з Арэшкава, **Юлія Снарская** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Alarm | Mapa | Koło | | Bank | Kobyła / To | |
| | Moc / Miecz | Woda | | Hit | | | | | |
| | Wagon | | | | | | Ob | | |
| Ko-mórka | | | | | | | | | |
| Stan w USA | Data | | | | | Ara | | | |
| | | | | | Szosa | | | | |

# Сакрат Яновіч ва ўніверсітэце

Аб літаратуры Беласточчыны і агулам аб літаратуры паграніччa немагчыма гаварыць без Сакрата Яновіча. Выступае ён заадно ў польскім, як і ў беларускім кантэкстах і з'яўляецца знакавай постаццю. Яго творчасць кранае многія пытанні: і тоеснасці, і свядомасці, але і гістарычных ды агульнаграмадскіх спраў. Пісаў пра тое, што спазнаў і адчуваў. Успамінаў у сваіх дзённіках, што няма ў яго творчасці ўяўных людзей, усіх дзесьці сустракаў у жыцці. Ягоная літаратура цесна звязана з жыццём, — так аб памерлым 17 лютага 2013 г. пісьменніку з Крынак сказала ў перапынку міжкультурнага сімпозіума «Сакрат Яновіч. Пісьменнік трансгранічны» яго суарганізатарка, мадэратарка адной з публічных дыскусій і заадно дакладчыца Гражына Харытанюк-Міхей з Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку.

Сімпозіум ва Універсітэце быў арганізаваны 20 лістапада мясцовымі ўстановамі: Філалагічным факультэтам, Інстытутам польскай філалогіі, Лабараторыяй рэгіянальных даследаванняў і Кафедрай беларускай культуры, а таксама беластоцкім філіялам Літаратурнага таварыства імя Адама Міцкевіча. Сімпозіум папярэдзіў публікацыю кнігі, прысвечанай дасягненням Сакрата Яновіча, якая мае паказацца да канца гэтага года, а якая ахоплівае яго творчасць, погляды, жыццё са шматлікіх пунктаў гледжання (аўтарамі тэкстаў з'яўляецца каля сарака чалавек).


■ Выступае Гражына Харытанюк-Міхей з Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку

## Па-за жорсткімі межамі

Ва ўводным слове прафесар Данута Завадзкая з Інстытута польскай філалогіі УуБ сказала:

— На беластоцкай паланістыцы на працягу некалькіх гадоў мы праходзім рэгіянальнае навучанне, маем нават спецыяльнасць — прамоцыя горада і рэгіёна — а творы Сакрата Яновіча знаходзяцца ў спісе чытанняў. Пасля смерці пісьменніка стала зразумелым, якая гэта важная постаць у рэгіёне, у Польшчы і Беларусі, заслугоўваючая не толькі памяці, але і жывой, бесперапыннай навуковай рэфлексіі над яго літаратурнай творчасцю і яго роляй у грамадскім жыцці. Ад самога пачатку, аднак, мы хацелі паглядзець на Яновіча з двух пунктаў гледжання: польскага і беларускага, таму мы не маглі сабе ўявіць працы над кнігай пра яго без удзелу знатакоў беларускай культуры. Такім чынам мы звярнуліся ў Кафедру беларускай культуры нашага факультэта з прапановай сумеснага стварэння кнігі. У выніку ўзнікла польска-беларускі рэдакцыйны калектыў з Катажынай Савіцкай-Мяжынскай, Гражынай Харытанюк-Міхей і мною. Сабралася міжнародная група аўтараў.

Пры нагодзе разважала:

— Што гэта значыць, што Сакарт Яновіч з'яўляецца трансгранічным пісьменнікам? У прынцыпе, ён быў пісьменнікам, чыя творчая асоба і ідэнтычнасць не змяшчаюцца ў строгіх межах, а прыйшлося жыць яму ў свеце поўным межаў. Іншы свет, дарэчы, не існуе, і ніякая палітычная адмена межаў гэтага не зменіць. Таму Яновіч хацеў, мог, патрапіў перасякаць межы, ад моўных, таму што быў пісьменнікам беларуска-польскім, да эстэтычных — не ўпісваўся ў літаратурныя жанры, ствараючы новыя, змешаныя, характэрныя толькі для сябе, напрыклад, «сакраткі». Але трансгранічнасць абазначае таксама рэгіянальнасць (...). Трансгранічнасць уключае ў сябе рызыку, таму што мяжа ўжо не цэнтр і апора.

Аб рыхтаванай кнізе Гражына Харытанюк-Міхей у перапынку сімпозіума сказала:

— Варта аб Сакраце Яновічу гаварыць у розных кантэкстах. І гэтая кніга закранае ўсе кантэксты. Змяшчае яна ўспаміны, інтэрв'ю з польскімі і беларускімі аўтарамі, якія думаюць у еўрапейскіх катэгорыях. Мы спадзяемся, што кніга будзе крыніцай натхнення для далейшых даследаванняў. Усё аб Сакраце Яновічу немагчыма сказаць ні ў гэтай, ані ў наступнай, ані ў чарговых кнігах. Сакрат Яновіч заслугоўвае вялікай манаграфіі.

Ці фактычна Сакрат Яновіч быў транспамежным пісьменнікам? На гэтае пытанне паспрабаваў адказаць у размове з журналістамі ў перапынку сімпозіума гісторык праф. Яўген Мірановіч:

— Перш за ўсё Сакрат Яновіч быў вельмі ўбудаваны ў Беласточчыну, у наш менталітэт. Часам я адчуваю, што Беларусь, з другога боку мяжы, мала ведаў. Ён бачыў яе, перш за ўсё, праз прызму літаратуры, таго, што было напісана публіцыстамі. Нават рэдка бываў госцем у Беларусі. Каб пазнаць Беларусь, тамашні менталітэт, тамашніх людзей, трэба правесці ў ёй шмат часу, а не толькі ў час сустрэч на семінарах ці дыскусій з калегамі пісьменнікамі.

Прытым дадаў:

— Без сумнення, Сакрат Яновіч са сваім талентам быў пісьменнікам еўрапейскага, нават сусветнага фармату. Яго трансгранічнасць тычыцца некаторых беларускіх сімвалаў, знойдзеных у літаратуры, а не ў рэальнасці на другім баку мяжы. Але гэта добра, што ён знайшоў сімвалы, коды, якія аб'ядноўваюць жыхароў Беласточчыны і Беларусі.

## Пісьменнік ірацыянальны

Сярод удзельнікаў сімпозіума быў паэт і даследчык Гродзенскага ўніверсітэта Анатоль Брусевіч. У размове з «Нівай» прызнаўся:

— Для мяне Сакрат Яновіч у першую чаргу — пісьменнік, які аб'ядноўвае ў сабе папершае Польшчу і Беларусь, з другога боку дзве плыні амаль да еднасці: рэалізм і мадэрнізм, па-трэцяе, маё дзяцінства і юнацтва. У маладосці я ў першую чаргу пазнаёміўся з яго «Сярэбраным ездаком», а пасля ўжо з іншымі творамі, пачаўшы з мініяцюр. Калі я стаў дацэнтам, пачаў даследаваць яго творчасць больш грунтоўна. Наогул я зацікаўлены ў літаратуры экзістэнцыялізму. І калі я пачаў займацца мадэрніцкай літаратурай, мне здавалася, што нешта падобнае ўжо чытаў. І гэта была творчасць Сакрата Яновіча. Можа мала хто гэта прыкмячае, але яна мае шмат агульнага з літаратурай Марселя Пруста ці Альбера Камю.

Працягваў:

— Наколькі ва ўсёй Беларусі ў масавым маштабе Сакрат Яновіч быў мала чытаны, бо і маладаступны, на Гродзеншчыне з доступам да яго творчасці было лягчэй, нават у выніку прамога кантакту аўтара са шматлікімі мясцовымі пісьменнікамі, як з Алесем Чобатам ці Данутай Бічэль, якая мела ўсю літаратуру Беласточчыны і дзялілася ёю з гродзенскім літаратурным асяроддзем. Яны давалі мне пачытаць, а нават некаторыя з кніг я атрымаў ад іх. Тым не менш, мае аднагодкі мелі праблемы з доступам да літаратуры Сакрата Яновіча. У бібліятэках ягоныя кнігі не былі даступныя. Толькі дзякуючы намаганням выкладчыкаў, асабліва беларусістаў, якія на спецкурсах чытаюць лекцыі аб польска-беларускіх літаратурных сувязях, студэнты даведваюцца аб ім. Аднак, гэта вельмі вузкае кола філолагаў-беларусістаў.

Адзначыў таксама:

— Сённяшняя Еўропа, і заходняя, і ўсходняя, перастае разумець літаратуру. Грамадствы, асабліва маладая іх частка, кіруюцца сёння рацыянальным мысленнем, а літаратура Сакрата Яновіча крыху ірацыянальная: спачатку трэба яе адчуваць, а потым разумець.

## Малітва слову

На працягу сямігадзіннага сімпозіума з вельмі цікавым дакладам «У Сакратавым старонні. На палях прозы і эсэ Сакрата Яновіча» выступіў літаратуразнаўца і літаратурны крытык, які нарадзіўся ў Гайнаўцы, а жыве ў Варшаве і Арэшкаве — Радаслаў Раманюк:

— Ні адзін з аўтараў не мог бы напісаць „Малітву да беларускага слова", якую склаў Сакрат Яновіч. Малітву ў прамым і ў метафарычным сэнсе, якой была яго ўся беларускамоўная творчасць. Беларуская мова ў ёй набірала літургічнага вымярэння, у адрозненне ад пальшчызны. Сам Яновіч з некаторай ступенню каварнасці любіў абясцэньваць польскую мову, разглядаючы яе як інструмент для журналістыкі (...). Яновіч меў першабытнае стаўленне да слова. Польскія пісьменнікі не адкрываюць слова, так яму не здзіўляюцца, не каштуюць яго, не гладзяць, не ўнюхваюцца ў яго, не моляцца яму. Для іх яно відавочнае. Яновіч патрапіць любавацца тым, што ў слове жыве ўсё жыццё (слова вядзе па жыцці, само па сабе з'яўляецца формай жыцця). Усведамле сувязь слова і свету, тое, што можна ўступіць у свет праз слова: свет дзяцінства, малалецтва, маладосці. Для Яновіча з'яўляецца ім беларускае слова, але захапленне ён у стане перадаць па-беларуску і па-польску. Усеагульнае захапленне, якое разумеецца ў любой мове.

Прыкмеціў:

— Сакрат Яновіч, становячыся беларускім пісьменнікам, выбраў альтэрнатыўны лад жыцця, складаны і падвяргаючыся комплексам «пройгрышу», «дзівака». А таксама таму, што будзе вакол бачыць людзей, якія пайшлі іншым шляхам і ў іншы бок. Параўнанне з імі магло быць псіхічна цяжкім. Важным аспектам яго празаічнай творчасці з'яўляецца культура. Гэта проста партрэт, стары як мастацтва метад люстэрка, пастаўленага на гасцінцы. Гасцінец беластоцкі і падбеластоцкі, а праходжваюцца па ім розныя фігуры з генерацыі аўтара, якіх спалучае яшчэ адно: беларушчына і жаданне пазбавіцца ад яе. Разгляданае як жыццёвы выклік павышэнне з беларуска-вясковай цывілізацыі да гарадской і польскай. Гэта на самой справе жудасныя гісторыі, карціны на меру беларускага Гогаля, балючыя і запамінальныя чымсьці благім і саромным.

Падкрэсліў між іншым, што важнай асаблівасцю пісьменства Сакрата Яновіча з'яўляецца вяртанне мінулага і годнасці беларускага народа.

У сваю чаргу выкладчыца англійскай мовы праф. Люцына Александровіч-Пэндзіх з Варшаўскай вышэйшай школы сацыяльнай псіхалогіі распавяла аб перакладах «Мініяцюр» Сакрата Яновіча на англійскую мову, якія зрабіла брытанка Шырын Акінер:

— У перакладзе відаць майстэрства формы гэтых твораў, умеласць прымянення эквівалентных, а не поўных сказаў, і дасягнення гэтым метадам эфекту іроніі. І гэта няпроста. Веру, што часам адзін такі сказ мог узнікаць некалькі дзён. Калі б сёння Сакрат Яновіч быў карыстальнікам сацыяльных медый, мог бы быць знакамітым карыстальнікам напрыклад твітара, хоць, верагодна, вельмі прадумваў бы кожны запіс, перш чым укінуць яго ў партал.

## Пісьменнік дыялогу

Анна Сабэцкая, радыёжурналістка, перакладчыца твораў героя сімпозіума на польскую мову, падзялілася багатай карэспандэнцыяй, якую вяла з ім асабліва ў канцы 70-х і 80-х гадоў:

— Гэта было адно з першых і найбольш важных літаратурных беларускіх і літаратурных знёмстваў у маім жыцці. Не хавала, аднак:

— Сакрат застанецца ў маёй памяці як чалавек рэфлексіўны, але імпульсіўны і эгацэнтрычны, прагны поспеху, але таксама прыцягваючы да размовы, дыялогу, пасля таксама ўсведамляючы сваю ролю.

Аб паэтыцы горада (Беластока) у творах Сакрата Яновіча разважала доктар Альжбета Кананчук з Інстытута польскай філалогіі УуБ:

— Вуліцы маюць у яго сваю паэтыку і рыторыку. Вялікую ролю надае ён сентыментальнай геаграфіі мікрараёнаў. Яго метафара горада — як тканіна.

Літаратуразнаўца з УуБ Катажына Савіцкая-Мяжынская, аналізуючы польскія рэцэнзіі творчасці Сакрата Яновіча, заўважыла, што ён быў няраз атакаваны асобамі, якія лічыліся экспертамі па літаратуры. Ён быў абвінавачваны ў тым, між іншым, што з аднаго боку выкарыстоўвае беларушчыну для ўласных кан'юнктурных мэт, а, з другога боку, з'яўляецца цалкам непісьменным у пальшчызне.

Гражына Харытанюк-Міхей расказвала пра патрабуючае — як адзначыла — упарадкавання ўспрыняцце пісьменніка з Крынак у Беларусі, у тым ліку яго кніг, выдадзеных там у адносна нізкіх тыражах, і публікацый у беларускіх часопісах, такіх як «Дзеяслоў» ці «Архэ»:

— Ён быў вядомы ў Беларусі, у асноўным дзякуючы «Ніве», якая туды даходзіла (...). Важныя для яго былі сустрэчы з людзьмі, якія прыязджалі з Беларусі, асабліва з правінцыі, з пісьменнікамі (...). Як аўтар не адчуваў сябе здзейсненым у Беларусі.

У адной з дзвюх дыскусій у ходзе сімпозіума праф. Іаланта Штахельская з Інстытута польскай філалогіі УуБ сказала:

— Не хапае мне моўнай рэфлексіі аб творчасці Сакрата Яновіча, вывучэння яго з боку мовы. Відаць у ёй адсутнасць пачуцця віны, што не валодае мовай прывілеяваных эліт. Сакрат Яновіч валодаў жывой мовай, з багатымі славянскімі каранямі.

А праф. Данута Завадзкая намаўляла:

— Мы павінны выкарыстоўваць Сакрата Яновіча для дыялогу.

Гражына Харытанюк-Міхей:

— Калі гаварыць пра літаратуру Беласточчыны, дык трэба гаварыць пра польскую і беларускую літаратуры. Марыцца мне нейкая супольная манаграфія, ахопліваючая гэтую цэласць.

У час дыскусіі ўзяла голас Галіна Тварановіч, кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі УуБ, якая звярнула ўвагу на прапушчаныя арганізатарамі сімпозіума матывы ў біяграфіі Сакрата Яновіча, як і заслугі ў фармаванні яго літаратурнага стаўлення Георгіем Валкавыцкім ці яго дзейнасць у Беларускім літаратурным аб'яднанні «Белавежа» і Саюзе польскіх пісьменнікаў.

Больш аб сімпозіуме, у тым ліку аб дэбатах, якія яму спадарожнічалі — у наступным нумары.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# З Бельска ў Орлю

Першай бельскай вуліцай, пра якую іс-наванне я быў калісь даведаўся, была вуліца Дубяжынская — адрас ваенкамата, пасрэдніцтвам якога адправіўся я ў больш шырэйшы свет. І вось зараз падаўся я тою вуліцай у напрамку менш шырэйшага бельскага наваколля. Між гэтай вуліцай і выязной у напрамку Сямятыч распаложана абшырная бельская некраполія, а не надта далёка ад яе будуецца Пакроўская царква. Яна звонку выглядае вельмі арыгінальна, становячыся свайго роду сімвалам Бельска, ягоным знакавым аб'ектам. І можна было б радавацца такому эстэтычнаму ўзбагачэнню гарадскога краявіду, калі б не кальнула мяне там мала прыкметнае пабачанае. Менавіта ўзводзіцца там злучальная галерэя да, мабыць, прадбачванай побач званіцы. Гэта ў агульным плане мае быць такі царкоўны комплекс, які ўзводзіцца і ў маім беластоцкім Свята-Юр'еўскім прыходзе паводле задумы таго ж самага аўтара. У Беластоку стаіць ужо база званіцы, адно толькі чакае таго моманту, калі следам за эскізам будаўнікі атрымаюць і канкрэтны праект яе завяршэння. Кальнула мяне вось прадчуванне, што не інакш можа быць і ў Бельску...

Недалёка за рысай горада новыя могілкі, месца рэфлексіі перад наступаючымі лістападаўскімі памінкамі. Гэта месца не толькі цялеснага спачыну адышоўшых у лепшы свет, гэта таксама месца нераўнадушнага ўспаміну за тымі, хто, здаецца, перастаў ужо хваляваецца. Метэоры нашых душ, якія павыляталі з розных сузор'яў і па пракладзеных ім гараскопах або і побач іх, больш або менш ярка пралятаюць за вызначаны ім лёсам час свае жыццёвыя траекторыі і быццам гаснуць. І пакідаюць на збльтаных з імі іншых жыццёвых траекторыях тужлівы найчасцей след прамінулай цеплыні і прысакрэчанае ўсведамленне немінучасці прамоўчванага ў гараскопах *fatum*. Прыгадваюцца мне эпізоды з дзяцінства, якія, быццам размыты прарочы сон, асэнсоўваю як далікатнае прадказанне маёй эмацыянальнай, здавалася б — зусім непрадказальнай, траекторыі. Ахоплівае пачуццё знаходжання на бясстрэлачных рэйках прызначанай мне кармы з вельмі канкрэтнай найбліжэйшай станцыяй. Але сучасныя могілкі з іх каменнымі намагільнікамі гэта своеасаблівы пратэз памяці прагнага несмяротнасці чалавечага роду, спроба прытармазіць Час алфавітам.

Не спяшаю. Праз прагаліны лесу паказваюцца буйныя антрапагенныя новаўвядзенні ў традыцыйны ландшафт, што ўзніклі на тэрыторыі Арлянскай гміны. Наганяе мяне пяшком пажылая жанчына з веласіпедам поруч. Выбралася яна на сваю плантацыю парэчак правесці там ачышчальныя агратэхнічныя працэдуры. Плантацыя ўзнікла тады, калі парэчка была ў цане, калі масава ўзнікалі іншыя парэчкавыя плантацыі. А пасля тая буйная парэчкавая прапанова і новая эканамічная рэальнасць панізілі цэны да ўзроўню нерэнтабельнасці. Некаторыя гаспадары кінулі даглядаць свае парэчкавыя гектары, іншыя трываюць. Мая субяседніца, якая жыве ў Бельску, ахвотна выходзіць у сваё макранскае поле, бо лічыць гэта здаровым каратаннем часу, інакш чым ейныя суседкі, якія аддаюць перавагу сядзенню ў гарадскіх блоках і візітам у лекарскіх кабінетах.

Не так адлеглы час, калі жыхароў Дубяжына бударажыла перспектыва пабудовы побач іх вёскі звалкі смецця. Пытаю субяседніцу, якой карані з суседняга Мокрага, што цяпер з той звалкай. Жанчына тлумачыць мне, што гэта вельмі неадказны праект, бо побач, каля Алекшаў, залежы вельмі чыстай вады, якую тая звалка можа забрудзіць. І тут адна адукаваная ў законе жанчына напісала нейкія заявы, у выніку якіх закладка звалкі спынена. Пры нагодзе мая інфарматарка, мабыць крыху здзіўленая, што я нічога не ведаю пра бацьку юрысткі, асведамляе мяне, што ён меў жонку з Дубяжына, з якой развёўся і ажаніўся з іншай, якая з Градалёў; а тая другая пасля яго кінула і на старасць астаўся ён сам...



Пакроўская царква ў Бельску




З.П.
НЕЗАБУТА ПАМЕТЬ ПАШКУВСКОГО НАРОДА
О ТРАГИЧНО ПРОПАЩЫХ 20 липца 1944 року
И УДРУГИХ ЧЫСЛАХ
ЯКОНЬУК АЛЕКСАНДЕР, МАРЫЯ доч ВЕРА и ВАЛА
БУРАК АЛЕКСИЙ ГАННА доч ЛИДА
КУЛИК ДАРЫЯ сын ВАНИА
СЕЛЕВЕСЬУК ДАРЫЯ сын МЫКОЛАЙ
ГЛИНКА АРТЕМ застриланы 27 липца 1944 року
НЕЗАБУТА ПАМЕТЬ И ОТЫХ ЩО НЕВЕРНУЛИС
ДО БАТЬКУВ - ДЫТЫ - ЗНАКОМЫХ
ЛУБА ЦЕТРА СТЕП... ОДЫНЕЦЬ
ВАСЫЛЬ КАВЕЦКИ ...АКСЫМ ГРАЙКА
ВИЧНА ... ПАМЯТЬ
ПАШКУВЩЫНА 20 липца 2010 рук

У Дубяжыне кіруюся ў напрамку традыцыйнай крамы. Перад ёю два ровары, якія наводзяць на мяне думку, што там крыху пакупнікоў. Але пакупнікоў у краме няма. Прадавачка тлумачыць мне, што прыходзяць яны што нейкі час. Аднак крама мае адзін непрыцягальны недахоп — у ёй нельга спажываць напояў з працэнтамі, у тым ліку піва. Затое ў іншай краме, што побач колішняй школы, ёсць бар, дзе можна выгадна пасядзець насалоджваючыся залацістым эліксірам. Заглядаю і ў бар: усярэдзіне двух мужчын, і навонкі таксама двух, якія, мабыць, яшчэ не прынялі рашэння ці заглянуць у бар цяпер, ці пазней...

З Дубяжына кіруюся ў бок Кошак. Вёска выглядае акуратненька. Калісь-калісь сяляне прызначалі большасць свайго часу працы ў полі і не ўсе мелі магчымасць займацца адмысловым дэкорам сваіх хат і панадворкаў. Цяпер здаецца, што ўладальнікі панадворкаў так угледаюцца ў свае камерныя ўладанні як жанчыны ў люстэрка: быццам пудры і крэмы — абіўка, пакошаныя касілкамі газоны — быццам вынік дэпіляцыі...

На адну з лавачак выйшаў пажылы мужчына, спыняюся каля яго. Пытаю пра хату насупраць ягонай, якая, як падаецца мне, мела быць будучым палацам, адно запал уладальніка быў, мабыць, саламяны. Даведваюся, што ўласнік хаты жыве ў Сямятычах, недзе мае такіх хат больш, бадай дзве, а ў Кошкі прыязджае прыблізна раз у месяц. Цікаўлюся недалёкай Ікеяй і даведваюся, што крыху мясцовых людзей там працуе, а адна жанчына нават пайшла адтуль на пенсію. Чалавек не наракае, паказвае мне недалёкую дарогу ў напрамку Градалёў, на якой свежы, чорненькі асфальт, а побач асфальту яшчэ свежы жоўценькі пясочак.

З Кошак кіруюся ў бок Пашкоўшчыны, што з другога боку бельска-кляшчэлеўскай шашы. Недалёка ад шашы будынак былой школы. І выглядае ён быццам той згаданы раней муж, кінуты другой жонкай. Сямейныя дачыненні часта вызначаюць лёс нерухомасцей... Крыху далей на вулічнай лавачцы дзве жанчыны насалоджваюцца апошнімі сёлетнімі цёплымі днямі. Заводжу размову пра школьны будынак. Адна інфармуе, што купіў быў яго адзін прыватнік, але ўжо прадаў іншаму. Другая пярэчыць, што яшчэ не прадаў. І тут таксама ў жанчын усплывае гаворка пра сямейныя дачыненні таго ўласніка, які, нажыўшы з першай жонкай двойку дзяцей, развёўся і ажаніўся з другою, з якою ўжо таксама двое дзяцей; жанчыны незадаволеныя сямейнай непастаяннасцю не толькі мясцовых дзялкоў, яны асуджаюць таксама падобныя паводзіны іншых вядомых ім публічных асоб.

З Пашкоўшчыны кіруюся ў напрамку Орлі. Неўзабаве даходжу да вельмі абноўленай дарогі ў Тапчыкалы. Два ці тры гады таму быў я ў Тапчыкалах, дзе людзі панаракалі мне на дарогу з іх вёскі ў Орлю. Войт Пётр Сэльвесюк быў тады моцна незадаволены інфармацыяй пра такое наракання і за яго абнародаванне здорава ўсыпаў мне перцу. Але сёлета, перад выбарамі, вельмі скрупулёзна прыслухаўся да голасу тапчыкалаўскага электарату і дарога ў Тапчыкалы атрымала свежанькі чорненькі асфальт. І новыя дарожныя паказальнікі пастаўлены на разгаліноўванні, аднамоўныя, каб, мабыць, хутчэй было. А можа новы ўрад змяніў прынцыпы аховы культурнай спадчыны нацыянальных меншасцей?..

У Орлі таксама вуліцы старанна накрыты асфальтам. Магло б гэта і цешыць, але наводзіць сум іншае — Орля, здаецца, перастае быць цэнтрам грамадскага жыцця, сыходзячы адно да ролі адміністрацыйнага. Здаецца яшчэ не так даўно працавалі тут шматлікія крамы, а зараз іх асталося як на лякарства. Ды і ў іх пакупнікоў — як на лякарства. У краме побач гміны пажылая жанчына размаўляе з маладзенькімі прадавачкамі пасвойму, рэкамендуючы і ім такое ж. І тыя маладзенькія дзяўчаткі крышку збянтэжана, нясмела, прабуюць.

Як бы ні круціцца па Орлі, чалавек зачэпіць зрок за яе знакавую будоўлю — сінагогу. Гледзячы на яе прыгадваецца народная прыказка, што дзе нянек шэсць, там дзіця без носа. На дзвярах шыльдачка, што аб'-ект ахоўваецца законам, але той закон не ахоўвае перад прыроднымі працэсамі, перад сырасцю, якая намагаецца вярнуць там панаванне прыроды, як у некаторых не надта адлеглых сімвалах сацыялістычнага будаўніцтва. Магчыма, што вакол арлянскай сінагогі разыгрываюцца нейкія юрыдычныя шахматы, нейкія хітрыя юрыдычныя падкопы. Мо таму і гмінны цэнтр культуры ў Орлі ўсё знаходзіцца ў стане вонкавай гібернацыі...

Маючы крыху часу, падаўся я ў іншы ад сінагогі бок. Прайшоўшы побач задворкаў школьнага комплексу, направіўся я ў супрацьлеглым напрамку. За поймай Арлянкі паказаўся могілкавы мур з бачным у ім праломам. Падышоўшы на месца паказалася, што той пралом існуе ўжо крыху часу і, як мне здалося, ён там патрэбны, ён выконвае нейкую практычную функцыю. Праз яго, менавіта, можна выйсці ў адасобленае месца за тым мурам у выпадку непрадбачанай на могілках патрэбы.

На арлянскіх могілках, побач выхадной алейкі некалькі брацкіх магіл чырвонаармейцаў — ананімныя яны і ананімных іх лік. На першым скрыжаванні дарожны паказальнік паказвае напрамак у Антанова; адлегласць да паказванай мясцовасці — ананімная, паказальнік — аднамоўны. У цэнтры мясцовасці спыніўся аўтобус з Бельска, высыпалася з яго крыху школьнай моладзі; і моладзь аднамоўная. Цікава, колькі тых маладых асоб убачыць сваю будучыню ў роднай мясцовасці, якая іх карма, якія гараскопы... Ці Орлю, мясцовасць з багатым гістарычным мінулым, будуць наведваць толькі мабільныя крамы і кур'еры з заказаным таварам? А мо нават і гэтага не будзе: асвояць людзі тэлепартацыю і трохмерны прынтар надрукуе ім хлеб, бульбу ці смятану...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Замест рэцэнзіі

# Па зямных слядах паэта

Старэйшы беларускі паэт з Варшавы Дзмітрый (раней паэт падпісваўся Дзмітры) Шатыловіч далёка не навічок у паэзіі. З-пад яго пяра з друку выйшлі зборнікі паэзіі „Эцюды падарожжа", „Маё Падляшша", „Хвалі часу", „Вясёлка над імглою", „Струмені лёсу" і іншыя.

Свет пабачыла нядаўна і новая кніга вершаў „Сляды на зямлі" (Беласток 2014) у бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Гэта добра, што ў Беластоку існуе такая бібліятэка, якая ўжо выпусціла 89 кніг беларускіх літаратараў Польшчы. І добра, што ў гэту бібліятэку трапілі і вершы Дзмітрыя Шатыловіча. Калі я ўважліва прачытаў зборнік вершаў паэта „Сляды на зямлі", то моцна расчараваўся. Расчараваўся ў першую чаргу з-за таго, што кніжка „Сляды на зямлі" выйшла з друку без добрага рэдактара і ўважлівага карэктара. Калі за выданне кніг узялася „Белавежа", то, калі ласка, выдавайце іх сур'ёзна, вычытвайце кнігі перш чым аддаваць у друкарню, таму што, напрыклад, на старонках гэтага выдання вельмі шмат памылак, апісак, розных недакладнасцей: уралджай (трэба ураджай, с. 56), галзюкі (трэба гадзюка, с. 59), прнеслі (трэба прынеслі, с. 62), Подляшшы (трэба Падляшшы, с. 69), другіе (трэба другія, с. 68), кампютэры (трэба камп'ютары, с. 72), свыёй (трэба сваёй, с. 72), рарарвала (трэба разарвала, с. 82), схваўся (трэба схаваўся, с. 81), пале (трэба альбо палі, альбо поле, с. 77), фаерверкі (трэба феерверкі, с. 26), жыцёвыя (трэба жыццёвыя, с. 26), нерактадчыкі (трэба перакладчыкі, с. 71), кароавак (трэба каровак, с. 83) і г.д. Нават у загалоўку верша ёсць памылка, дзе адным словам напісана назва верша: дваццацьпершае стагоддзе. І памылка ў змесце кнігі трапілася ў прозвішчы аўтара кнігі: Лакаматыў, пераклад Д.Шатвловіча. Ну, браткі літаратары, такіх памылак дапускаць нельга. Нельга ні аўтару, ні выдаўцам. Ад гэтага залежыць найперш аўтарытэт „Белавежы".

Ёсць у „Слядах на зямлі" верш, які так і называецца „Верш можна пісаць...". Цікавая задумка аўтара. Пачнем з першай страфы:

*Верш можна пісаць,*
*каб усе зразумелі*
*Сэнс думкі, якую прадставіў паэт,*
*Ці розныя зместы змяшаць, як кактэйлі,*
*Каб быў недарэчны ягоны сюжэт...*

Уяўляеце, шаноўныя чытачы, што гэта будзе за мастацкі твор, калі розныя „зместы змяшаць, як кактэйлі"?.. Далей аўтар сцвярджае, што „калі верш ні рытмаў, ні рыфмаў не мае, яго перакладчыкі любяць заўжды". Ды не, наадварот, перакладчыкі любяць вершы моцныя, сюжэтныя, філасофскія, з вобразамі і параўнаннямі, вартыя чытання. А простыя вершы без рытмаў і рыфмаў ніхто перакладаць не будзе. Дый спадар Шатыловіч у свой зборнік уключыў выдатны верш Юліяна Тувіма „Лакаматыў" і прафесійна яго пераклаў на беларускую мову. Чытаецца пераклад лёгка, адчуваецца своеасаблівая прага руху, прага жыцця. Калі я чытаў пераклад і арыгінал верша „Лакаматыў" (ён таксама надрукаваны ў зборніку „Сляды на зямлі"), мне прыгадаўся факт, як рускі паэт Міхаіл Дудзін на поўным сур'ёзе некалі сказаў Аркадзю Куляшову, што яго пераклад на беларускую мову „Яўгена Анегіна" Пушкіна лепшы, чым сам арыгінал. Такі ж камплімент я магу сказаць і Дзмітрыю Шатыловічу за яго пераклад верша Тувіма.

А цяпер хачу спыніцца на першых радках верша „Божыя кароўкі":

*Нехта павесіў у садзе вяроўку,*
*Белую, тоўстую, быццам струну...*

Вельмі хачу спытацца ў аўтара зборніка, каб ён мне назваў струнны музычны інструмент, які мае белую, тоўстую, як вяроўка, струну?.. Параўнанне далёка няўдалае. І такіх падобных параўнанняў у зборніку хапае. Хаця Дзмітрый Шатыловіч — паэт публіцыстычнага жанру, паэт, які нядрэнна вершамі апісвае падзеі, мясціны, прыроду. Яго шырокая эрудыцыя, уражанні ад шматлікіх паездак па Польшчы, па былым Савецкім Саюзе, па іншых краінах свету, напаўняюць яго паэзію самымі разнастайнымі тэмамі і вобразамі — антычнасці, Адраджэння, Асветніцтва, матывамі літаратур розных часоў і народаў, гістарычных падзей. Гэта прысутнічала і ў ранейшых яго кнігах паэзіі. Кожная новая кніга — гэта працяг ранейшых кніг вершаў Дзмітрыя Шатыловіча. Субяседнікамі лірычных роздумаў паэта сталі Мікола Гайдук, калега па „Белавежы", Мікалай Хмяльніцкі, кіеўскі князь Уладзімір, Давыд Гарадзенскі, Вітаўт, Ягайла, Кейстут.

Адзін з раздзелаў зборніка прысвечаны роднаму Падляшшу. У шчырых вершах паэт прыгадвае калядкі падляшскіх дзяцей, шаптух, якія ў вёсках лячылі людзей, бо „дактары ўсе жылі ў гарадах", бацькоўскую хату, якая стаіць самотна, дзе здымак аўтара вісіць на сцяне, пра касцоў, што кляпалі косы, і ад іх стуку дрыжэлі ў хатах сцены, пра тое, як з бацькам ездзіў у лес па дровы. Але, як піша аўтар, Падляшша пусцее, не відно кароў на пашы, шмат нікому непатрэбных хат, праўда, ёсць і тыя, якія выкупілі чужыя людзі:

*Нямала дамоў чужакі*
*У вёсках нядаўна купілі,*
*А ў хатах пустых павукі*
*Усё павуціннем пакрылі.*

Паэт умее, як ніхто іншы, апець у сваіх творах простую сялянскую хату, плуг, сякеру, касу, клуні і сады, вясну і зіму. А гэтыя класічныя радкі проста запомніліся:

*Дзесь уцякла халодная зіма,*
*За пазуху сваю схавала сцюжу.*

Выдатны вобраз, ці не так?! Наогул, прыроду апісваць Дзмітрый Шатыловіч умее дбайна. Ён захапляецца з'явамі наваколля, выяўляе тонкасці адчування рэчаіснасці. Паэтычны свет аўтара поўны любові да прыроды, дзе „ў зубах марозу трашчалі гучна дрэвы за акном", альбо тая пара, калі „цяпло збудзіла ў вулею ўсе пчолы і выслала разведчыкаў на двор"...

Нягледзячы на вышэйвыказаныя карэктарскія і выдавецкія заўвагі, бясспрэчна, кнігі Дзмітрыя Шатыловіча пакінуць пэўны след на беларускай зямлі. Яны — сведкі розных падзей, вандровак, сустрэч, а гэта — жывыя дакументы, якія дапаўняюць наша жыццё, нашу гісторыю. Таму хочацца пажадаць аўтару ягонымі радкамі: каб творчае натхненне і надалей давала імпульс да тварэння.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

---

## www.bialoruskie.org

Старажытны Кракаў — месца, якое прываблівае турыстаў з усіх краін свету. Прыязджаюць сюды падзівіцца на архітэктуру, паслухаць аповеды пра гераічную гісторыю гэтага горада, даведацца аб людзях, якія зрабілі яго адным з найпрыгажэйшых на планеце. Але нягледзячы на тое, што Кракаў быў і застанецца адным з сімвалаў польскай культуры, ёсць там каму распавесці пра беларускую культуру. Каб у гэтым упэўніцца, варта зазірнуць на сайт тамтэйшага Беларускага таварыства культуры, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе www.bialoruskie.org.

„Беларускае таварыства ў Кракаве паўстала ў верасні 2009 года. Яно было заснаванае студэнтамі, выпускнікамі, аспірантамі, працаўнікамі Ягелонскага ўніверсітэта (ЯУ) (расіязнаўства, польская філалогія, культуразнаўства, паліталогія, фізіка, расейская філалогія, гісторыя). Рашэнне заснаваць Таварыства — гэта вынік ранейшай дзейнасці ў рамках Навуковага кола студэнтаў Інстытута Расеі і Усходняй Еўропы ЯУ", — распавядаецца на старонцы „Пра нас" у беларускамоўнай версіі сайта.

Сваё зацікаўленне беларускай культурай стваральнікі абгрунтоўваюць тым, што ў навуковым жыцці Кракава і інтэлектуальнай прасторы ўніверсітэта Беларусь застаецца ў цені на фоне даследаванняў культуры Расеі, Літвы, усходняга памежжа. „У культурных прапановах горада, які з'яўляецца еўрапейскай сталіцай культуры, вельмі рэдка можна знайсці мерапрыемствы звязаныя з Беларуссю — яе культурным жыццём, тэатрам, музыкай, літаратурай, мастацтвам. Таму мы ставім перад сабой мэту — шукаць розныя шляхі, каб Беларусь і яе разнастайнасць знайшла сваё месца ў Кракаве: сваіх гледачоў, чытачоў, слухачоў і фанатаў", — кажа доктар Юры Гардзееў і яго аднадумцы, пра якіх гаворка на старонцы „Кантакт".

Аналізуючы моўную палітыку Таварыства, можна сцвярджаць, што прыярытэт аддаецца польскай мове. Калі па-беларуску напісаныя толькі тры старонкі, то папольску іх больш за дзесяць, і там прасачыць за дзейнасцю арганізацыі значна лягчэй. Па-першае, там можна знайсці статут Таварыства, выйсце да якога месціцца пад адпаведнай назвай уверсе цэлага выяўлення. Па-другое, на галоўнай старонцы пад загалоўкам „Aktualności" знаходзяцца анонсныя паведамленні. Па-трэцяе, старонка „Projekty" падае інфармацыю аб тым, чым непасрэдна займаецца ці займалася Таварыства цяпер і некаторы час таму.

Адным з напрамкаў сваёй дзейнасці зацікаўленыя ў беларускай культуры студэнты выбралі беларускія моўныя курсы, якія апошнім часам сталі вельмі папулярнымі ў Беларусі. Пра гэта распавядаецца на старонцы „Mowa nanowa w Krakowie", выйсце на якую месціцца напачатку цэлага меню. Праўда, з пададзенай на старонцы інфармацыі незразумела, ці праходзяць гэтыя курсы ў цяперашні час, бо пачыналіся яны ў сакавіку і мусілі доўжыцца 12 заняткаў у першым семестры.

Прыкладна тая ж самая сітуацыя з „Беларускім клубам". На старонцы „Spotkania klubu białoruskiego" мы знойдзем інфармацыю, пазначаную альбо 2011 годам, альбо толькі месяцам і чыслом. Праўда, тут дапамагае старонка Таварыства ў фейсбуку, дзе ўсё больш набліжана да нашых дзён.

Таварыства беларускай культуры ў Кракаве пастаянна шукае тых, хто хоча далучыцца да яго працы. Аб гэтым распавядаецца на старонцы „Wolontariat".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

Дата з Календара

Ахвяраваў жыццё Богу і Беларусі

## 65 гадоў з дня гібелі Адама Станкевіча

Адам Станкевіч — адна з сама вялікіх постацей беларускай гісторыі XX стагоддзя. Усім сваім жыццём ён сцвярджаў духовы подзвіг, аддана служыў Богу і беларускай ідэі. Нарадзіўся ён у вёсцы Вурляняты (цяпер Арляняты) на Смаргоншчыне. Гэтая мясцовасць дала беларускаму руху цэлы шэраг выдатных дзеячаў з такім прозвішчам. Скончыў вучэльню ў Ашмяне, духоўную семінарыю ў Вільні, рымска-каталіцкую акадэмію ў Петраградзе. Супрацоўнічаў з беларускімі газетамі „Светач", „Дзянніца", „Гоман". Быў адным з заснавальнікаў і лідараў Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці. Адзін з ініцыятараў правядзення з'езду беларускага каталіцкага духавенства ў Менску ў 1917 г.

Адам Станкевіч адным з першых перайшоў да казанняў на беларускай мове. Працаваў і праводзіў набажэнствы ў Дзісенскім, Браслаўскім паветах, пасля ў Драгічыне. У апошнім месцы пераследаваўся за беларускасць каталіцкімі ўладамі. З 1919 г. кандыдат кананічнага права Станкевіч выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. Быў рэдактарам-выдаўцом легендарнай беларускай газеты „Крыніца". Уваходзіў у Камітэт беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У 1922-1928 гг. — пасол польскага сейма, намеснік старшыні Беларускага пасольскага клуба. Бараніў беларускія інтарэсы. За дабрачынную дзейнасць яго называлі „вялікім філантропам". Адзін з кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, узначальваў ТБШ, быў кіраўніком Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1928-1939 гг. — рэдактар і выдавец часопіса „Хрысьціянская думка". Адзін з заснавальнікаў беларускай друкарні імя Скарыны, у якой было выдадзена каля 150 розных беларускіх рэлігійных і свецкіх кніг. Выступаў за эвалюцыйны шлях развіцця грамадства, легальныя формы працы, адмоўна паставіўся да сацыялістычнай рэвалюцыі. Асуджаў пераслед беларускага насельніцтва з боку тагачасных польскіх улад. Служыў у касцёле св. Мікалая ў Вільні, потым быў высланы ў Слонім. Увосень 1939 г. вярнуўся. Пасля перадачы Вільні Літве арганізаваў Беларускі цэнтр, аднавіў выданне газеты „Крыніца".

У гады фашыстоўскай акупацыі служыў у касцёле св. Міхала, ратаваў экспанаты Віленскага беларускага музея. У 1944 г. надышоў савецкі пераслед, быў арыштаваны НКВД, але неўзабаве выпушчаны. У 1949 г. быў арыштаваны паўторна і звінавачаны ў антысавецкай дзейнасці. Станкевіча засудзілі да 25 гадоў пазбаўлення волі. Спярша сядзеў у Лукішскай турме, потым быў вывезены ў савецкі канцлагер. У Азярлагу пад Тайшэтам (Іркуцкая вобласць) 29 лістапада 1949 г. паводле адной з версій памёр, але праўдападобна, што быў забіты. У афіцыйнай паперы пра смерць Станкевіча цынічна напісана, што ён „умер от ожирения сердца". Пахаваны вялікі беларускі святар і асветнік на могілках Азярлага каля вёскі Шаўчэнкі Тайшэцкага раёна. У наш час у Вільні на будынку былой беларускай гімназіі ў базыльянскіх мурах адчынена мемарыяльная шыльда ў гонар Адама Станкевіча. Пасля гэтага вялікага чалавека засталася каштоўная навуковая, літаратурная і тэалагічная спадчына. У 2008 г. з друку выйшаў грунтоўны збор твораў Станкевіча пад назвай „З Богам да Беларусі".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

3 ☞ працяг

# Самаўрадавыя выбары 2014 года

У **гміне Орля** за пасаду войта старалася трох кандыдатаў: Міхал Гурскі, Славамір Сахарэвіч і Пётр Сэльвэсюк. Будзе кіраваць войт двух папярэдніх тэрмінаў Пётр Сэльвэсюк, які стартаваў з камітэта «Бельская кааліцыя». Прагаласавалі на яго больш чым 70% выбаршчыкаў. Пасля выбараў ён падкрэсліў, што не без значэння для яго выніку быў факт, што ў Орлі рэалізуецца найбуйнейшая замежная інвестыцыя ў краіне — завод Ікея, які працягвае разбудоўвацца. Прадбачыў у бліжэйшай перспектыве, між іншым, будаўніцтва гміннага культурнага цэнтра і невялікага вадаёма пад Орляй. У Гміннай радзе Орлі мандат раднага атрымала аж дзевяць радных з Бельскай кааліцыі ды па трох з ПСЛ і СЛД.

**Сямятычы**

У Сямятычах у выбарах перамог былы бургамістр — Пётр Сіняковіч, на якога прагаласавала каля 73% выбаршчыкаў. У Радзе з 15 дэпутатаў засядзе 14 членаў яго камітэта і адна з камітэта Таварыства сяброў Сямятыч. Але другі тур выбараў пройдзе ў **Сямятыцкай гміне**, дзе сутыкнуцца Ян Гуменяк і Эдвард Красоўскі. Другі тур выбараў войта будзе ў **Мельніку**. Канкураваць будуць цяперашні войт Адам Табота, які атрымаў каля 32% галасоў, і Яўген Віхоўскі, на якога галасавала каля 36% выбаршчыкаў. 30 лістапада пройдуць таксама выбары ў гміне **Нурец-Станцыя**, дзе Пётр Яшчук стане ў твар у другім туры з Раманам Дэмяновічам.

**Крынкі**

У **Крынках** цяперашні бургамістр Багуслаў Панасюк з ВК «Крынкі 21» прайграў выбары 25 галасамі з папярэдняй бургамістр Іалантай Гудалеўскай з Выбарчага камітэта «Сумесна для Крынак», якая набрала 863 галасы і гэта яна будзе правіць горадам і гмінай.

**Саколка**

У **Саколцы** ў Гарадской радзе ў 21 асоб найбольш радных, бо шасцёра, выводзяцца з камітэта ПіС, пяцёх з камітэта Дыялог і супрацоўніцтва 2014. Бурмістр Саколкі будзе вылучаны ў другім туры. Пераможца першага тура Пётр Буйвіцкі (3725 галасоў), ад васьмі гадоў на пасадзе намесніка бургамістра, будзе змагацца з Эвай Кулікоўскай (2603 галасы), кандыдаткай ад ПСЛ.

**Беластоцкі павет**

**У Гарадку** за чацвёрты тэрмін змагаўся войт Веслаў Кулеша і перамог двух сваіх сапернікаў: Сільвестра Чарнэцкага і Ежы Грыца ў першым туры, здабыўшы падтрымку 54,2% выбаршчыкаў. У Гміннай радзе з 15 асоб будзе мець аж адзінаццаць «сваіх» радных. А ў суседнім **Міхалове** ў другім туры сутыкнуцца Марк Назарка (43,5%) і Уладзімір Кананчук (41,7%). Прапаў у гэтым змаганні Лешак Грыц, якога падтрымалі 14,8% выбаршчыкаў. У міхалоўскай Гарадской радзе дзевяць радных выводзяцца з камітэта падтрымліваючага Марка Назарку — „Малая айчына", пяцёх — з камітэта Уладзіміра Кананчука — „Гаспадарлівая і прававая гміна Міхалова", а адзін з камітэта „Незалежны — Адважны — Салідны".

За крэсла бургамістра **Заблудава** канкуравалі чатыры кандыдаты, у тым ліку апошні кіраўнік гміны Яцак Люлевіч. Ні адзін з іх не атрымаў неабходнай большасці галасоў, і ў другім туры будуць змагацца Адам Томанэк і Дарыюш Драўноўскі.

**Беласток і сеймік**

Другі тур таксама чакае жыхароў Беластока. У першым, змагаючыся за пераабранне прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі на чале ўласнага Выбарчага камітэта, чыю кандыдатуру падтрымлівала ГП, практычна на волас не перавысіў пяцідзесяці працэнтаў (здабыў дакладна 49,37% падтрымкі.). Стане ён перад кандыдатам ад ПіС Янам Дабжынскім, якога ў першым туры падтрымала 34,16% выбаршчыкаў. Змены наступілі ў Гарадской радзе з 28 дэпутатаў. Уладу тут пасля ГП пераймае ПіС з 15 раднымі. Нават калі б ГП хацела, і так з 6 сваімі раднымі не ў змозе яна стварыць большасную кааліцыю з 6 раднымі ад камітэта Тадэвуша Трускаляскага і адным ад Камітэта СЛД (журналіст, перформер, у апошні час супрацоўнік Падляшскай оперы і філармоніі Войцех Каранкевіч). У гэтым тэрміне ў беластоцкай ГР не будзе гуртка заснаванага чатыры гады таму раднымі Форуму меншасцей Падляшша. Ніхто з чатырох кандыдатаў ад ФМП — па-за Славамірам Назаруком — не атрымаў адпаведнай падтрымкі выбаршчыкаў. Значыць, не будзе радных ад Форуму з папярэдняга тэрміну: Стэфана Нікіцюка і Адама Мусюка, ані на нова старაючагася за гэтую функцыю Яна Кахановіча ды Марка Масальскага, дагэтуль ваяводскага раднага, віцэ-маршалка падляшскага сейміка. Славамір Назарук сцвярджае, што слабы вынік ФМП, як і ўсёй ГП, рэзультат разбіцця патэнцыйнага электарата паміж камітэт ГП і Камітэт Тадэвуша Трускаляскага.

У **Падляшскім сейміку** з 30 дэпутатаў, незалежна ад перамогі ПіС (12 мандатаў, раней 11) зноў кааліцыю складуць ПСЛ (9 месцаў; раней 5) і ГП (8 месцаў; раней 11) пры падтрымцы аднаго раднага ад СЛД (раней 3). У ваяводскім сейміку новага тэрміну не стане Яна Сычэўскага — аднаго з яго віцэ-маршалкаў, старшыні ГП БГКТ. З беларускага асяроддзя ў сейміку засядуць, апрача Уладзіміра Пятрочука, былы віцэ-маршалак Валянцін Карыцкі і папярэдні ваяводскі радны Мікалай Яноўскі з ПСЛ. Рэкардсменам у плане набраных галасоў у выбарах у ваяводскі сеймік аказаўся Мечыслаў Башко (16 тысяч; ахвотна гаворыць па-свойму, хоць адкрыта не прызнаецца да беларускіх каранёў) і згадваецца ён як найбольш сур'ёзны кандыдат на новага ваяводскага маршалка пасля Яраслава Дважанскага з ГП, які таксама ўвайшоў у сеймік, як і ўся ваяводская маршалкоўская ўправа. Як паведамлялася раней лідарамі падляшскіх «людоўцаў», ПСЛ хоча ў сеймікавай управе мець большасць у радзе гэтага тэрміну. З чацвёртай па велічыні акругі, званай меншаснай, ПСЛ і ПіС узялі па тры мандаты. З ПСЛ гэта намеснік дырэктара падляшскага аддзела Агенцтва па рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі Ежы Ляшчынскі і якраз Мікалай Яноўскі і Валянцін Карыцкі. ПіС маюць прадстаўляць цяперашні ваяводскі радны Лукаш Сякерка, былы радны Генрык Лукашэвіч і Дарота Кендра-Пташынская — дзяячка «Польшчы Разам» Яраслава Говіна. ГП у гэтай акрузе ўвяла ў сеймік ваяводскую радную Дануту Сапінскую і падляшскага ваяводу Мацея Жыўну, які запэўніваў «Ніву»:

— Я аддам сябе толькі працы ў сейміку, пайду ў адстаўку з пасады ваяводы.

Прадстаўніком СЛД з чацвёртай акругі ў ваяводскім сейміку будзе дасюлешні гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

■ Злева: бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, бельскі віцэ-стараста Пётр Божка і пакуль намеснік старшыні Рады Бельскага павета Васіль Ляшчынскі — галоўныя архітэктары параможнай Бельскай кааліцыі

## Адгаданка

1. расійскі абласны горад у... рэпертуары „Песняроў", 2. задыякальнае сузор'е (*Virgo*), 3. прылада не для хавання ў мяшок, 4. асілак, велікан, 5. жонка Адама, 6. комплекс мусульманскіх юрыдычных норм і правіл, 7. агульная назва краін, размешчаных на ўсходнім узбярэжжы Міжземнага мора, 8. у трыядзе з надзеяй і любоўю, 9. Віктар, паэт-*baltarusis*, які і з... Балтыкі, і з-за... Балтыкі, 10. старажытнарымскі мужчынскі плашч са... сталіцай у Ламэ, 11. пасудзіна для збівання масла, 12. адзінка з двума нулямі, 13. непажаданы хатні грызун, 14. не ідзе ў лад.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | | | 2 | | |
| | | | | | | | 3 | | | 4 | | |
| | | | 5 | 6 | | 7 | | 8 | | | | |
| | | 9 | 10 | | | | | | | | | |
| 11 | | | | | | | 12 | | | 13 | 14 | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Ага, веер, Куба, паяц, Шэйн, Эш, Яна.

Рашэнне: **Абяцаная шапка вушэй не грэе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 30.11 — 06.12

**(22.03. — 20.04.)** Поспехі ў пачуццях. Прыемна правядзеш час з людзьмі амбітнымі і баявітымі. Многа энергіі і рашучасці ў адносінах да свету. Не ідзі ў адпачынак, многа можаш выйграць у дзеянні. 1-4.12. будзеш моцны, трывалы, дысцыплінаваны. Прагрэс, вырашыш складаныя справы. Але 6.12. цяжка будзе засяродзіцца, арыентавацца ў сітуацыі; не вырашай жыццёва важнага; магчымыя праблемы ў кампаніі.

**(21.04. — 21.05.)** Будзь разважлівым і адкрытым на кампрамісы, усё будзе па-твойму. У сужонстве і парах магчымы цяжкі час (аж да 23.12.). 1-3.12. непаразуменні з сябрам; не паддавайся эмоцыям. 2-6.12. будзеш вельмі шчодры. Уважліва прыглядайся здароўю і сімптомам хвароб. Ад 5.12. не спрачайся з шэфам. Ашчаджай.

**(22.05. — 22.06.)** Гармонія ў парах. 2-6.12. будзеш вельмі творчы ў адносінах. Крыху фантазіруй у пары! 4-8.12. адкрыеш новую пасію, прыліў энтузіязму. Ахвота пабяседаваць, міла правесці час. Маёвы Блізнюк рассеяны, цяжка яму ахапіць нават простыя справы; не вырашай важнага. Варушыся. На працы будзь сумленным, дакладным, пунктуальным (да 22.12.!), дацэняць цябе. Не бяры пазык у снежні, бо надзенеш кандалы на шмат месяцаў!

**(23.06. — 23.07.)** Увесь снежань — час зарабляння і выдавання. Не навязвай іншым свайго меркавання, бо кепска на гэтым выйдзеш. 1-4.12. вельмі пільнуйся, пагражаюць табе аварыі і катастрофы. 5-7.12. могуць не ўдацца супольныя планы з блізкімі.

**(24.07. — 23.08.)** Дробнае здарэнне з 3-7.12. можа перакрыжаваць твае планы і заважыць на іх рэалізацыі; звяртай увагу на дэталі, не дайся збіць з панталыку. У пары перадай ініцыятыву партнёру. Да 5.12. гарачая атмасфера на працы, трымай эмоцыі на паваду. Вельмі пільнуй кашалька, не дай сябе падмануць, не падпісвай абавязацельстваў.

**(24.08. — 23.09.)** 4-8.12. дзякуючы спрыту і адвазе маеш шанц зрабіць хуткую кар'еру! Поспех у павышэнні. Самотная Дзева: выйдзі з хаты, знойдзеш файнага партнёра (не звяртай увагі толькі на выгляд!). Варушыся, не еж нездаровага. Добры час на наватарства, пошукі занятку. Пачатае ў снежні прынясе вялікія прыбыткі! Але 1-3.12. не расказвай на працы аб асабістым, ды не вельмі добрыя здароўе і настрой.

**(24.09. — 23.10.)** Прыліў велізарнай энергіі, акажаш вялікае ўражанне. Хаця сямейныя справы могуць перашкодзіць у планах; 6.12. пачнецца новы раздзел у тваім хатнім жыцці. Хадзі на ўсе імпрэзы, на адной з іх сустрэнеш асобу, якая стане тваім самым верным сябрам. Настрой добры, але прылепяцца нейкія запаленні; усё рабі ва ўласным тэмпе. Абавязкова абследуй шчытавідную залозу.

**(24.10. — 22.11.)** У пачуццях ідылія. Самотнаму лёс прынясе новае знаёмства, але не спадзявайся на яго (перад канцом зімы затое штосьці будзе!). Не вагайся папрасіць дапамогу. Сцеражыся абжорства! І навучыся адпачываць, бо калі перанатужыш арганізм у снежні, паваліць цябе на пару месяцаў! На працы справішся з найгоршым, але пахваляць цябе пазней. Не пазычай грошай, пільнуй крэдытных карт. 5-7.12. нервы, стрэс; не спрачайся.

**(23.11. — 22.12.)** Дабратворная стабілізацыя ў пары. Але тыдзень ненайшчаслівейшы для блізкіх; могуць выявіцца справы, якія цябе ашарашаць, магчымае вялікае расчараванне. Затое пік у здароўі — аж да 22.12. І рушае ўперад твая кар'ера; разаб'еш канкурэнцыю ў пыл! Але не бяры крэдытаў, пераглянь свае адносіны да грошай.

**(23.12. — 20.01.)** Умеласць засяроджання на найважнейшым. Але ў пачуццях на гарызонце віхры і буры. Затое сустрэчы ў сям'і цудоўныя. На працы поспех з адкрытай галавой. 5-7.12. не стань ахвярай плётак на рабоце.

**(21.01. — 19.02.)** 2-6.12. — добры час на падпісванне дамоў, знаёмствы, бізнес. 4-8.12. інтуіцыя падкажа як найлепш задбаць аб здароўе; праблемы вырашацца самі, хаця не рызыкуй! Ад 5.12. можаш перажыць самую захапляльную любоўную прыгоду! На працы асаблівыя выклікі, вельмі пільнуй тэрмінаў і абавязкаў.

**(20.02. — 21.03.)** 1-4.12. шыкуюцца фінансавыя праблемы, не з-за тваёй віны; асцярожна падбірай супрацоўнікаў. Не будзь лішне шчырым, пабудзь дыпламатам. 2-6.12. ахвотна гэтыя дні праспаў бы або нажыраўся б ласункамі; пільнуйся, бо пашкадуеш, але ж і не катуйся дыетамі. 5-7.12. схочацца кінуць табе ўсё ў адзін кошык — не рызыкуй!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2015 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



# Украіна ў цяні вайны (10)

Карпатыя, дзякуючы крамлёўскай прапагандзе, мела напамінаць логава фашыстаў, нацыстаў, антысемітаў, бандэраўцаў, піндосаў і ўсякай масці вычварэнцаў. Рэч, сама па сабе, супярэчная і небяспечная для суполкі. Ды яшчэ на кожным кроку мелі тут бушаваць лысыя баевікі ад «Правага сектара", бязлітасныя для чужаземцаў, асабліва для тых рускамоўных. Той, хто паверыў у чорную прапаганду і прыпёрся сюды дзеля чорных сенсацый, моцна расчараваўся. Вось такое Ярэмчэ, карпацкі райскі куточак, хоць абвешаны бандэраўскімі сцягамі, ідавочна сумаваў па рускамоўных турыстах. Людзі лічылі патраты і суцяшалі сябе словамі:

— А на Крыме яшчэ горш, чым у нас. Там зусім праваліўся турызм!

У справе Крыма, хоць ён ужо і належаў Расеі, быццам нічога і не памянялася. Такую думку ўнушалі ўкраінскія прагнозы надвор'я па СМІ — разам з іншымі вобласцямі называлі Крым ды тэмпературу вады ў курортах ля Чорнага мора.

Аднак ехаць туды купацца і загараць не было дурных. Сама думка аб адпраўцы на Усход і асабліва ў зону АТА (антытэрарыстычнай акцыі), наклікала халодныя дрыжыкі і гусіную шкуру на целе. Таму карпацкая Чарнагорыя, у вялікай ступені залежная ад турыстаў, за ўсякую цану стрымвала бестурботны настрой канікул і інтэрнацыяналістычнай дружбы. Усё гэта аж стамляла і палохала.

* * *

— Калі гэта ўсё скончыцца? — Тацяна, карэнная гуцулка, не разумела вайны. Усё, што гаварылі і паказвалі ў тэлебачанні, здавалася чорным кашмарам. Як гэта страляць да сваіх дзяцей? *Цэ страшно!*

Апошнія словы Тацяна паўтарала як мантру. Згаварыліся мы ў дарозе, дзесьці паміж Ярэмчэ і Рахавам, у аўтобусе. Жанчына вярталася з працы пасля начной змены ў адным гатэлі ў Ярэмчэ. Стомленая, наўючаная пакупкамі. Ад прыпынку чакала яе тры з паловай кіламетра дарогі. Гэта нічога. Такі даўжэйшы шпацыр.

Па дарозе зойдзе яшчэ ў сваю царкву. Там якраз ідзе збор грошай на армію. Вайна бязлітасна раскрыла галечу і безграшовасць краіны. У войска не толькі не стае зброі. Байцам не хапае яды, цёплай вопраткі.

— Пакуль сабралі ўжо восем тысяч грывень, — кажа Тацяна. Гэтая вялікая сума, прыблізна семсот доляраў, яе паўгадавы заробак. Жанчына хваліць ахвярнасць мясцовых горцаў. Пенсіянеры часта аддаюць усе ашчаднасці.

— Людзі даюць па сто, па дзвесце грывень. Нехта прынясе прадукты, або сантэхніку. Два дні таму адзін дзед прынёс мяшочак арэхаў.

Уся гэтая вайна для Тацяны патрэбная як снег у разгары лета. Яна сама ніколі не была ў Славянску ці Данецку. Ды што тут гаварыць — нават у Кіеве не была, хоць пражыла паўстагоддзя на свеце. Вялікі свет яе не спакушае і не маніць пустымі абяцанкамі. Чаму? Бо ж той вялікі свет сам да іх прыязджае. Тацяна, працуючы ў гатэлі прыбіральшчыцай, на ўсё наглядзелася.

— Бяда, што прыходзіцца нам працаваць у сваёй краіне за сабачыя грошы, — цяжка ўздыхае. І на канец дадае з надзеяй: — Можа, калі сціхне вайна і краіна стане на ногі, скончыцца нашае белае рабства і эканамічнае прыніжэнне?!

* * *

Словы Тацяны падзейнічалі як халодны душ. Свет, бачаны з акна аўтобуса, камунікаваў зусім адваротнае. Цягам апошніх дзесяці гадоў карпацкі прыдарожны краявід змяніўся да непазнавальнасці. Уся дарога з Ярэмчэ да Рахава была забудаваная новымі пансіянатамі, гастэлямі і гасцініцамі. Праўда, вялікая іх частка была пакінута ў палове пабудовы. На многіх відне-





лі аб'явы «прадаецца». Тым не менш, гэты карпацкі куточак, як ніводнае раней бачанае месца ў Заходняй Украіне, кіпеў ад прадпрыемніцтва, прыватнай ініцыятывы і багацця.

Разам з бумам на пансіянаты і гастэлі свой уздым перажывалі будаўнічыя прадпрыемствы і фабрыкі. Уся прастора была спярэшчана рэкламай цэглы, каменю, акон, дзвярэй, бляхі, чарапіцы, панэляў, кранаў, душаў, інтрэр'ераў для саўны, платоў і агароджы, альтанак і панадворкавых аздобаў тыпу штучны бусел. Гэтую галерэю прапаноў па канкурэнцыйных цэнах папаўнялі будаўнічыя прылады, адбойныя малаткі, электрапілы, бетонамяшалкі і электракасілкі. Набрынялае і крыклівае багацце, быццам на злосць вайне, вырастала тут як грыбы пасля дажджу, без ідавочнага плану і прасторавай гаспадаркі. Скажу больш: шчыльнасць і безгустоўнасць новай забудовы даводзіла да хворага галавакружэння. Часам на цесным панадворку стаялі тры гастэлі. У літаратурным сэнсе адрэзак паміж Ярэмчэ і Рахавам напамінаў Вуліцу Кракадзілаў з «Цынамонавых крамаў» Бруно Шульца.

— Мясцовыя людзі пабудаваліся дзякуючы заробкам у Іспаніі, Нямеччыне або Італіі, — кажа Андрый з Львова. — Другая частка ўласнікаў гастэляў гэта багатыя кіяўляне. Многія палацы належаць тутэйшым цыганам. Яны разжыліся за мяжой і тут пабудавалі свае дамы.

* * *

Андрый, студэнт гістарычнага факультэта, свой тыднёвы адпачынак у Карпатах палічыў інвестыцыяй на будучыню. Здзейснены і шчаслівы вяртаўся ў свой Львоў.

— Ніхто не ведае, што здарыцца цягам надыходзячага года. Можа гэта маё апошняе падарожжа ў жыцці? Калі рускія пойдуць з вайной на Кіеў, я таксама не буду хавацца ў бульбу, пайду на фронт. Ад гэтага не ўцячэш!

На пытанне аб «Правы сектар» Андрый скрывіўся, быццам жаваў лімон. У яго ніколі не было суполкі з крайнімі нацыяналістамі. Хлапец доўга корпаўся ў сваёй памяці, каб у рэшце рэшт, на здзіў самому сабе, сцвердзіць:

— Я сам асабіста не ведаю нікога такога...

Папраўдзе «Правы сектар», як тэхналагічная партыя, узнік з розных нацыяналістычных суполак толькі ў сакавіку 2014 года. Яго лідар, Зміцер Яраш, прадстаўлены ў Расіі як самы грозны нацыянал-фашыст свету, публічна адрэзаўся ад антысеміцкіх і фашысцкіх ідэалогій.

— Да іх прыставалі ўсякія рамантыкі, — кажа Андрый, — хлопцы, якія вераць у нейкую віртуальную магутнасць Украіны, ад Сана па Каўказ.

У час, калі мы сабе прыемна гутарылі з Андрыем, «Правы Сектар» ваяваў дзесьці пад Данецкам, і здабываў прызнанне сяброў, а нават смяртэльных ворагаў.

— Большасць баевікоў «Правага сектара» родам з Усходу, — паясняе Андрый. — Частка з іх размаўляе толькі па-расейску.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960